УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 14. Вершы. Паэмы. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : Зміцер Колас, 2021.— 376 с., іл.

ISBN 978-985-23-0139-8.

У чатырнаццаты том збору твораў Сяргея Давідовіча, увайшлі новыя вершы і паэмы, напісаныя ў 2020–2021 гг.
Ацэнку іх паэтычнай вартасці могуць даць толькі чытачы і час.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-23-0139-8**

## Таямніца, навізна

Ад усіх па нітцы — і кашуля будзе,
І табе за гэта дзякуй, шчодры свет.
А калі па слову гаваркія людзі
Ад душы падораць — вось вам і паэт.

Словы — не забава, прымаўкі — не жарты,
Да учынку ўчынак — вось ланцуг падзей.
Што бы мог зрабіць я і чаго б быўварты,
Каб я жыў асобна, не сярод людзей.

Дзякуючы людзям, назіранню, мове,
У душы натхненню лёгка прарасці.
Так вось ажывае ў паэтычным слове
Бачанае калісь, чутае ў жыцці.

Лепшага сабе не пажадаю лёсу,
Колькі таямніцы ў ім і навізны!
Я перад людзьмі не задзіраю носу —
Мне падаравалі талент свой яны.

## На вяршыню Галгофы

Думкі, мары нязбыўныя, рыфмы і строфы,
Пераажытага гмах, недажытага міг,
Я праз сілу нясу на вяршыню Галгофы,
Да няўсыпных і праведных суддзяў маіх.

Гэта толькі яны з паднябёснай вяршыні
Назіралі штоміг ад народзін за мной.
Кожны крок па жыцці адзначалі няспынна
І грахі, і памылкі, адна за адной.

Ну а спраў маіх добрых маглі не заўважыць,
Як не бачылі іх пры жыцці на зямлі.
Будуць там, на Галгофе, грахі мае важыць,
А не добрыя справы, якія былі.

Я зрабіў гэтых спраў у жыцці дастаткова,
Хоць без гучных адзнакаў анкета мая.
І калі мне дадуць там апошняе слова,
Заяўлю, што ні ў чым не пакаюся я.

## Біятокі часу

Паказваюць падзеі нораў свой,
Душу сціскае стынь жыцця сляпая.
У надыйшоўшай старасці маёй
Мне старасці спакойнай не хапае.

Не толькі мне спакою не стае,
Але й прысеўшай побач вернай Музе.
Каб толькі дні, дык нават сны мае
Няспынна адпачынак мой валтузяць.

І ўсё ж я не магу жыццю свайму
За рытм шалёны прад'явіць папрокі.
Ўсё гэта адбываецца таму,
Што сэрца ловіць часу біятокі.

## Плач наўздагон

Мір табе наўздагон,
Век аджыўшы свой, вёска,
Ты — не родная,
Нашага часу дачка.
Ён нявечыў цябе
І бяздушна, і жорстка —
Так падточвае бераг
Няспынна рака.

Вось і блізкі фінал…
Колькі вас засталося,
Састарэлых жанчын,
Вашых хатак між дач?
І не вернеш сюды
Ні дзяцей шматгалоссе,
І ні хросьбінаў,
І ні вяселляў — хоць плач.

Дажываюць свой век
У нястачы вяскоўцы,
Паміж пенсій скупых —
Зноў, хоць плач, хоць крычы.
У ватоўцы бабуля
Ледзь нясе ў хату дроўцы,
Каб астылую печ
Напаліць да начы.

Падтрымае іх хто, адзінотаў?
Пытанне.
І каму яны трэба, такія?
Бяда.

Як ім збалансаваць,
Аднавіць харчаванне,
Калі іх рацыён —
Ледзь не хлеб і вада?

Сумна, цесна ў наш час
На вясковых магілах,
Над вяскоўцамі суд
Тут спраўляе свой баль.
Колькі дач і катэджаў
Ля хатак пахілых,
Але ж дачнікі — гэта
Не вёска, на жаль.

Век для гора — бясконцы,
Для шчасця — кароткі.
І адзін, і другі,
Праляцелі, як сон.
Мір табе наўздагон,
Светлы час нашых продкаў —
З развітальнай слязой,
Сэрца плач наўздагон.

## Іголка ў стозе

Я зразумеў, што чалавек — іголка,
А свет вакол — з прытухлым пахам стог.
Шукаць іголку ў стозе, мала толку,
Яе не знойдзе ў ім, напэўна, й Бог.

А я ж сцвярджаў, што чалавек — пустэльнік
Між тысячаў людзей, дзе ні душы,
Дзе не царкоўны звон, а звон бутэлек,
Дзе праваручны ён, а ўсе ляўшы.

Так, з вамі мы — пустэльнікі, іголкі,
Губляемся на старасці гадоў.
Мы — самаратавальнікі й анёлкі,
А «стогу» не да нас — і ўся любоў.

## Руплівасць

Працуй хаця б увесь свой век
У полі, на сядзібе, ў хатцы.
І ўсё ж ніколі чалавек
Усёй не пераробіць працы.

Спрадвек гучыць адзін матыў
У чалавечае прыродзе:
Адно, дзясятае зрабіў,
А сто яшчэ на падыходзе.

Што чалавек гультай — мана,
На полі, на сядзібе, у хатцы,
Ён ад цямна і да цямна
Усё у працы, ў працы, ў працы.

Руплівасць — не благая рэч:
Жыць сёння лепей, чым учора.
Каб чалавек жыў з плеч у печ,
Мы б заставаліся ў пячоры.

## Ген памяці

Мы жывём на узроўні пачуццяў,
Больш высокі узровень ці ёсць?
Мы жывём, каб, пайшоўшы, вярнуцца,
Каб застацца, хоць кожны з нас госць.

Застанемся, не знікнем мы, будзем,
Хто — надоўга, а хто — назаўжды,
Калі ў іншых пачуцці разбудзім
Праз адноўлены час, праз гады.

Мы ацэньваем самакрытычна,
Што ў вечнасці вечны ёсць сон,
Што з зямлі гэтай знікнем фізічна,
Але й памяці ген — вечны ён.

## Пачатак дня

Віднее. Ціха. Дня пачатак.
У раніцы ружовасць шчок.
Над лесам аблачынак статак,
Над імі — месяц-пастушок.

Святло псуе яго браваду,
Знікае ён з вачэй зямлі.
І аблачынкі без дагляду,
Адчулі вольнасць, паплылі.

Пачатак дня, ён параўнальны
З жыццём, нацэленым у свет.
Ён і бадзёры, і запальны,
І поўны сіл, і поўны мэт.

Пачатак дня, як спраў дыспетчар,
Плануе, рупіцца, гудзе,
Бо ведае — надыдзе вечар
Й пачатак ночы прывядзе.

## Дзве сястры

Абклала хмарамі абапал,
Маланкі — там, то тут.
Па кім жа ты дажджом
заплакаў,
Мой мілы кут?

Прымаю сэрцам блізка-блізка
Твой сум, тваю тугу.
Мой родны край, мая калыска,
Твой боль прыму.

Мой лёс з тваім і я з табою —
Ў адным жыцці-віры.
Мая сляза з тваёй слязою,
Як дзве сястры.

Не вечныя ж над намі хмары,
Адхлыне час слаты.
Я веру — аб адным мы марым,
І верыш ты.

## Бяссілле

Гняце бяссілле, Божа,
Жыць невыносна з ім —
Мая бездапаможнасць
Дапамагчы другім.

Канае свет вялікі,
Я бачу ў ім найперш
Гаротнікаў без ліку.
Пакутнікаў не менш.

Ды што з таго, што бачу,
Што боль чужы прыму?
Я свет не перайначу,
Аддам хоць без астачы
Сваё жыццё яму.

І гэтае бяссілле
Гняце, нявечыць, гне.
Мне падсякае крылле
І раніць сэрца мне.

*11.XII.2020*

## Другое жыццё

*Из книг, превозмогая тлен,*
*Встает другая жизнь*
*поэта.*

Пьер Ронсар

Памёр паэт — і кніжкі на паліцу,
Як не было яго, але праз іх,
Даў Бог паэту двойчы нарадзіцца,
Праз творы зноў вярнуцца да жывых.

Няўжо гады жыцця — перыяд горшы
Для вынаходца паэтычных слоў?
І ўжо праз час, паэт, з жыцця пайшоўшы,
Бывае больш жывы для чытачоў.

Мінула свята — мы яго святкуем,
Хаця заўжды мінулае, як сон.
Мы пры жыцці, што маем, не шануем,
А ўжо згубіўшы, плачам наўздагон.

## Адкрыю сакрэт

Адкрыю вам сакрэт — я старасць не люблю
І мару, каб яна мяне не палюбіла.
Таму — у меру ем і па-спартанску сплю,
І нават на дзяўчат я пазіраю міла.

І лёгкаю хадой іду, хоць цяжка мне,
Калені я не гну, спіну трымаю прама.
Магу гульнуць ва ўсю, з другімі нараўне
І чарку, нават тры магу кульнуць таксама.

Праз гэта я хачу даць старасці пад дых,
Маўляў, у коле год не лішняя я спіца.
Вядома ўсім, што старасць не любіць маладых,
Таму і да мяне баіцца падступіцца.

## Каму гэта трэба?

Раскрый, Купала, вочы,
У наша сёння глянь.
Няма больш чорнай ночы,
Чым той, што сёння змрочыць —
Хутчэй, Купала, ўстань!

*

Тэатр імя Янкі Купалы
Нагадвае пустку-турму.
Яго нечакана не стала,
Закрыўся ён раптам. Чаму?

Пік глупства ці нечых амбіцый
Нязменна ў тупік завядзе.
Спектакляў няма, рэпетыцый
Ў раскіданым гэтым гняздзе.

Ну й нумар — трымайся за неба!
Трагізмам за сэрца кране.
Купалаўцы! Вам гэта трэба?
Няўжо беларускасці? Не!

Культуру паклалі на шалі —
Яна ў заняпад ці наўздым?
Акцёры каму падыгралі?
Хто не з беларускасцю — тым.

Крыж ставіць на роднае мове,
Хто мае на гэта правы?
Не, гэта не глупства, панове,
Больш страшнае творыце вы.

100 год вам, а вы, нібы дзеці,
На сцэну пара, як раней.
Шукаю я лішні білецік
Папасці на ваш юбілей.

*

Раскрый, Купала, вочы,
У наша сёння глянь.
Няма больш чорнай ночы,
Чым той, што сёння змрочыць,
Хутчэй, Купала, устань!

*Верасень 2020 г.*

## Каўчэгі творчасці

Усім не дагадзіць ні вершам, ні паэмай,
Ні гумарной, ні трагедыйнай тэмай,
Хоць памірай.
Зласліўцы будуць — хоцьма ці не хоцьма,
І крытыкаў, і «падкалодных» процьма,
Ажно праз край.

Чамусьці з даўніны у творчым асяродку
Калегу прагнуць прадзіравіць лодку,
Пусціць на дно.
І хоць пад лодкай акіян-бяздонне,
Акрылены ўзляціць, а не патоне,
Усё адно.

Заўжды чытаю вас і цешуся, калегі,
Не лодкі вашы творы, а каўчэгі
У цемры год
Яны ратуюць творчасць і духоўнасць,
У іх заўсёды ўратаваных поўна
З жыццёвых вод.

## Святыя храмы

Хоць я паэт, ды што з таго?
Пытанне гэта без адказу.
Мой верш маўчыць, калі яго
Ніхто не прачытаў ні разу.

О колькі вершаў ёсць «нямых»,
Маўчаць душ нашых абярэгі.
Уклалі талент, сэрца ў іх
Таленавітыя калегі.

У кожнага паэта ёсць
Свой творчы свет, не свет агульны.
Цікавы верш — жаданы госць,
Яму ў душы жывой утульна.

Духоўны, каб агонь не згас,
Як прад аслеплымі кратамі,
Вунь — крамы кніжныя для вас,
Бібліятэк святыя храмы.

## Скарга

Снежань, а снегу няма,
Не сабярэцца ніяк.
«Дзе ты ўжо, зімка-зіма? —
Скардзіцца заяц-беляк.—

Шэрую крыўду я п'ю,
Шэрыя дні ўсё адны,
Шэрую шубку сваю
Я распрануў да вясны.

Белая футра цяпер
Аж да вясны у мяне.
Ці паляўнічы, ці звер,
Лёгка убачыць мяня.

Снег для мяне абярэг
Ад небяспечных вачэй
Снежань, дык дзе ўжо твой снег?
Разварушыся хутчэй».

## Благі саюзнік

Мінулае заўжды ў належным стане
І ад яго штораз больш доўгі цень.
Яно расце й расці не перастане,
Бо да яго імкнецца кожны дзень.

А будучыня? Што яе чакае?
Як ёй расці? З якіх такіх ідэй?
Яна ж праз кожны дзень перацякае
У час мінулы — ну а што далей?

А чалавецтва — усё ж саюзнік ночы,
Ад ісціны не дзецца анідзе —
Пасля жыцця не ў будучыню крочыць,
А дружна у мінулы час ідзе.

Што ж, гэта жарт… але у жарце кожным
Ёсць і сур’ёзны сэнс, зусім другі:
Застацца мы без будучыні можам,
Бо мы саюзнік для яе благі.

# Сон

Ранняга захаду сківаца
Чырванню пазяхае.
Вечар да ночы хіліцца
Ветрык-блазнюк сціхае.

Цемра спалохам заячым
Кра́дзецца асцярожна.
Месячык немігаючы —
Кожнаму спадарожны.

Неба фарсіста зорыцца —
У захапленні абшары.
Ноч-апоўнач бадзёрыцца,
Рупіцца, гаспадарыць.

Ноч… Цішыня цыкадзіцца…
Ў саснілае веру й не веру.
Цікава, мой сон ці спраўдзіцца —
Выйду на двор, праверу.

## Не знаходжу слоў

Я вершамі сваімі перадаць не змог
Ўсю прыгажосць тваю, мой родны краю.
Навошта ж я тады ў паэзіі, мой Бог,
Пакутую, згараю, ўваскрасаю?

Хто вінаваты ў тым?
Ці малаўзнёслы я?
Ці беднасць слоў, якія я ўжываю?
Ці часу недахоп? Ці прыгажосць твая,
Недасягальная для вершаў, родны краю?

Я, тым не менш, пішу,
З паэзіяй я зноў,
З ёй сустракаю дні і засынаю.
І ўсё шукаю іх, і не знаходжу слоў,
Уславіць каб цябе, мой родны краю.

# Маяк

Калі мінулае, маёй душы — маяк,
Высвечвае свячой аджыўшых дат,
А для мяне даўно ўсё гэта так —
Плыву я не наперад, а наўспят.

Мінулае, нібыта ў пастцы сыр,
Які я сэрцам бачу, а не з’ем.
Плыву я не на той арыенцір,
Трымаю курс да тых, хто «глух и нем».

Ды лодка лёсу ў кожнага свая
І сустракае свой дзявяты вал.
А што, калі не збіўся з курсу я,
І, дзе святло свячы, там мой прычал?

## Клінам свет

Адкуль патрыятызму быць у маладых,
Патрыятызм якіх нікольki не цікавіць?
Культура, мудрасць кніг мала цікавіць іх,
Яны свой час у інтэрнэце бавяць.

Што за патрыятызм?
Для многіх клінам свет,
Праспала душы моладзі дзяржава.
Затое не праспаў дасужы інтэрнэт,
Сваёй маной ён труціць душы жвава.

Не спіць і ён —
Інфармацыйны час,
За душы барацьба ідзе сурова.
Наведайце у школе нашай
першы клас —
Там пра патрыятызм — аніпаўслова.

Як важна раскрываць
З сям'і, з малечых год,
Патрыятызм на словах і на справе,
Інакш не патрыёт расце, а антыпод
Свайму грамадству і сваёй дзяржаве.

Мяняе час людзей,
Час не стаіць, ідзе —
Як грымнуў гром, мы моладзі папрокі:
Дзе ваш патрыятызм?
Радзіма ваша дзе?
І дзе нацыянальнасці вытокі?

Патрыятызм не можа ўзяцца ніадкуль,
Як і сплючы ніхто не створыць дзею.
У інтэрнэтных «вундэркіндаў» —
Разумення нуль
І пра нацыянальную ідэю.

Не станеш патрыётам,
Хоць сто гадоў жыві,
Калі жывеш штодня з манаю разам.
Патрыятызму ў сэрцы месца,
У крыві,
Патрыятызм не адрадзіць Указам.

## Як мала трэба...

Я зімкай буду бачыць сны
Пра кут, дзе Бог даў нарадзіцца.
Эх сны… Дажыць бы да вясны,
Ступіць на родную зямліцу.

Нямогласць адхінуць у бок,
Душой амаладзіцца зноўку,
Абняць пасля зімы садок,
Вітаць сякеру і рыдлёўку.

Як мала трэба для таго,
Каб творцам быць шчаслівай долі:
Ніколі ад гнязда свайго
Не адлятаць ужо ніколі.

А колькі ж іх, у зімкі дзён?
У сэрцы блытаюцца лічбы —
Іх дзевяноста… як мільён…
Я буду крэсліць іх —
Дажыць бы…

*Карпілаўка*
*26 лістапада 2020 г.*
*ад’езд у Мінск*

## Учора-заўтра

Каб мне сёння ўдалося
Здзейсніць тое, што ўчора,
Майго поля б калоссе
Выспявала без гора.

Я б дажынкі на троне
Ухваляў гэтым святам.
Ганарыўся б я сёння
Умалотам багатым.

Сёння хутка адыдзе,
Час ніхто ўжо не верне.
А для заўтра, што прыйдзе,
Захаваць трэба зерне.

Вось і заўтра настала,
Голад з ім неўспадзевам.
Пэўна, ўчора я мала
Працаваў над пасевам.

## Водар успамінаў

О лецейка пара,
Часоў малечых дні,
Я помню да драбніц
Ваш водар, сколь жыву.
Мы шумнай табалой,
Між гуляў, бегатні,
Аддыхацца, гуртом
Валіліся ў траву.

Мы ўсе, да носу нос,
Нібыта сонца круг,
Нагамі круг шырэй,
Нібыта сонца промні.
Насупраць — кожны сябар,
І збоку кожны друг,
А там, дзе «нос да носу» —
Наш дыспут непрытомны.

І кожны ў гамане —
Мудрэй за мудрацоў,
Ўжо праз хвіліну мы
Не адчувалі стомы.
Травінка у зубах
У кожнага з мальцоў,
Сцяблінкі кожнай смак
Быў кожнаму знаёмы.

І тых травінак пах,
І тых сцяблінак смак,
У памяці душы
Знаёмы назаўсёды.

Адкінуўшы гады,
Эх, сёння б легчы так
З травінкай у зубах,
Пасля жыццёвай стомы.

І ўсё ж я рызыкнуць
Рашыў на схіле год,
Кульнуўся на траву,
Нібы малец, з размаху.
Мне муліла зямля,
Мне замінаў жывот,
Сцяблінка у зубах —
Ні смаку і ні паху.

Прыемна ўсё ў пару,
Ўсё добра да пары —
І гулі басанож,
І тонкі смак сцяблінаў.
Я памятую вас,
Мальцы, мае сябры,
Я ў сэрцы вас нашу
І водар успамінаў.

## Хто я без цябе?

Ой ты, краю родны мой,
Над табой вякі гулі.
Ты мой лёс і больш святой
Для мяне няма зямлі.

У святочнасці, ў журбе,
На чужбіне й дома тут,
Хто я, што я без цябе,
Без цябе, мой мілы кут?

Ні хвіліначкі адной
Без цябе не марыў я.
Вось і сёння ты са мной
І з табой душа мая.

## Апраўданне

О, грэшны свет людзей адроду,
Хоць грэх — брыда ўсяму святому.
Мне грэх прыносіць асалоду,
Калі не чыніць зла нікому.

Свет выхаваў мяне — я грэшны,
Жывеш з ваўкамі, вый па-воўчы.
І бачыць мне «бязгрэшных» смешна —
Крутых, прыўладных, грэшных тройчы.

Я грэшны й не хаваю гэта,
Грэх — спадарожнік мой нязменны
Пачаўся грэх спачатку века,
Грашаць ўва мне Адама гены.

## Даражэй усяго

За мару такую, жыццё, мне прабач,
Я буду шчаслівым паэтам у свеце,
Калі хоць адзіны мой верш,
Хоць адзіны чытач
Аднойчы сваім прачытае ён дзецям.

А дзеці пазней прачытаюць сваім,
Знакомячы з моваю, дзецям уласным.
І верш будзе жыць, і сустрэнуцца ў ім
З душою душа і былое з сучасным.

А аўтар? Калі й не згадаюць яго,
Такое бывае, такое не нова,
Паэтам усім даражэй усяго,
Каб слова жыло — паэтычнае слова.

## Зайздрасць

У векавым жыцці было бяды зашмат,
У векавым жыцці і жахі векавыя
Жывых сваіх ахвяр заўжды палохаў кат,
Што мёртвым пазайздросцяць пакутнікі жывыя.

Як гэта? — думаў я,— Што лепей за святло?
Не давядзі нам, Бог, з жыцця у цемру збочыць.
Каб смерць вышэй жыцця, такога не было,
Ніколі не было, каб дзень зайздросціў ночы.

Буяе ў сэрцы сум, разбэрс у галаве,
Падзеямі, жыццём пацёрты-перацёрты,
Адзін з радні сваёй пакуль яшчэ жыву,
Я, жыць пакуль жыву, але зайздрошчу мёртвым.

# Што з таго?

Вунь, вогнішча гарыць яскрава,
Шугае жар, ды што з таго,
Калі налева і направа
Ані душы каля яго.

І хоць агонь гарэў без спешкі,
Фарсіста, ад жыцця ў баку,
Ён дагарэў — і галавешкі
Астылі, нават ні дымку.

Гару і я самаадданa,
Ды час мне ў твар сказаў і ўслых:
«Гарэць самому не складана,
Ты запалі сабой другіх».

## Ратацыя

Мазгі ламаю я дарма,
Незразумелага нямала.
Міністр быў, цяпер няма,
Яго ратацыя злізала.

Нікуды без яе, на жаль,
Ратацыя — жах памінальны.
І перад ёю «вертыкаль»
Кладзецца ўся гарызантальна.

Мой лёс, ты данасіўся ўшчэнт,
Цяпер праблема вось якая:
Паколькі я не прэзідэнт,
Мяне «ратацыя» чакае.

## Жывая елка

Улады горада запэўнілі ўсіх нас:
Каб Новы год стаў больш запамінальным,
Жывая елка будзе гэты раз
Стаяць на плошчы гарадской цэнтральнай.

І гараджане ўголас — ох ды ах!
Які зялёны цуд — не надзівіцца!
Гэта ж не нейкі там жалезны гмах,
А прыгажуня з лесу — водар, пах,
З якой сцякае, як сляза, жывіца.

Вакол яе — жывы, святочны люд,
Здароў’я і жыцця сабе жадае.
Жывая елка — навагодні цуд,
Але, на жаль, яна ўжо не жывая.

## Замкнецца кола

Не лёгкая для сэрца праца
Ў сваё мінулае вяртацца,
Дзе нашы выстылі сляды.
Хоць блізкіх, родных там нікога,
Хоць там сляпой тугі аблога,
Ўсё ж цягне й цягне нас туды.

Ў сваё мінулае вяртанне —
Не свята, самакатаванне,
Там рэха святаў, росы слёз,
Там вечнай святасці аблічча,—
Туды ўсё гэта вабіць, кліча,
Туды, дзе нарадзіўся й рос.

Жыццё гуло, гудзе наўкола,
І ўсё ж замкне калісьці кола
Наш след на грэшнае зямлі.
Жывём ад ночы і да ночы,
Не, мы не ў будучыню крочым,
Вяртаемся, адкуль прыйшлі.

## Прама – крыва

Я — чалавек,
Я жыў між вас, людзей,
Я бачыў, чуў, я адчуваў, што й кожны.
Маё жыццё круціў малох падзей.
Мой розум труціў чад чужых ідэй —
Час злыдзень, час анёл — мой спадарожны.

Я ў гэтым часе жыў і ад яго
Шмат браў чаго, свядома й падсвядома.
Нясу святло і цень жыцця майго —
Ад светлага — уздым, ад змроку — стома.

Я мог бы стаць у позу святара,
Маўляў, я белы, чысты, служка Бога,
Ды слоў такіх падманная ігра,
Апроч фальшывых нот не дасць нічога.

Усё ўва мне, што на зямлі ў жыцці,
На жаль, усё — хоць пакрысе й не дзіва.
Як ні стараўся прама я ісці,
Так і ішоў, але, бывала, крыва.

## Адзіноцтва

Адзіноцтва — не востраў бязлюдны,
У нейкай бамбукавай будцы,
Дзе нікога — гады, дзе да скону не будзе
Душы чалавечай ніводнай.
Адзіноцтва — ў натоўпе, хоць у ім
Ні дыхнуць, ні крануцца,
Адзіноцтва — дзе локаць да локця,
А локаць суседні халодны.

Калі вочы у вочы,
А ад поглядаў толькі вачніцы,
А ад вуснаў — не словы, не ўсмешкі,
А колкасць калючага дроту.
Вось чаму будзе востраў бязлюдны,
А не шчыльнасць натоўпная сніцца.
І маё адзіноцтва абрала б
Той востраў бязлюдны ў ахвоту.

## Няўдалы лёс

Раслі бярозы разам уахвотку,
Ўсе — ад адной адна ўсяго за крок.
Адна з іх, маладзенькая блазнотка,
Адбеглася цішком на поле — ў бок.

«Куды ты так адбеглася, сястрыца? —
Бярозавы захваляваўся гай,—
Ой, цяжка будзе там табе прыжыцца,
Да нас хутчэй вяртайся, уцякай!

Адна адну мы падтрымаць гатовы,
Тут весела ў нас заўжды — зірні!»
Але ўцякачка — нуль на тыя словы,
Пусціла ў чыстым полі карані.

Яна расла — тут сонца больш, прасторы,
А там дзе сёстры, цень і ў ясны дзень.
Ці ж малады хто думае аб горы,
Калі палае ў душы агмень?

Яна глядзела ў будучыню смела,
Шануючы зялёны сарафан.
Але раптоўна бура наляцела,
Зламаўшы у бярозкі белы стан.

І жоўкла абязсочанае лісце,
І ўся яна ляжала сумна — ніц,
І плакала яна, ды без карысці,
І ўспамінала ветлівых сястрыц.

А гай жалобна нахіліў галовы,
Не дапамогуць ёй расінкі слёз.
Бярозцы абвясціў прысуд суровы
Яе уласны і няўдалы лёс.

Яна ляжала сумна ў чыстым полі,
Як непатрэбны, кінуты шкілет…
Ніхто яшчэ ні разу і ніколі
Вясёлым не пайшоў у іншы свет.

## Рэпертуар

Якія песні чуў у маладосці я,
Іх мілагучнасць сэрцу нагадаю —
Матыў срэбрагалосы ручая,
Вясенні гімн бярозавага гаю.

І красак лугавых гучаў напеў без слоў,
Якім з малечых год душа сагрэта.
І зграбны хор жытнёвых каласоў
У гонар адыходзячага лета.

А сёння чую што, узяты ў абцугі
Жалеза, шуму, чаду і бетону?
У гарадоў усіх рэпертуар другі,
Іх песні рэжуць слых, не горш праклёну.

Я не магу забыць далёкіх песень тых,
Душы падараваўшых асалоду.
Я чую, як музычны сэрца слых
Мяне ўсё кліча й кліча на прыроду.

# І дзе тыя лекі?

Астынь, чалавецтва, ад злосці глабальнай,
Спыніся, цунамі людской слепаты,
Адхлынь, міждзяржаўны шторм дзевяцібальны,
Разважлівым стань, час сучасны, круты.

Дзяржавы-глушцы, на сваім такавішчы,
Не чуюць другіх, сваёй «песні» апроч.
Вось так вось малох гістарычны і нішчыць
Дзяржавы, эпохі, ствараючы ноч.

Эх мы, «хомасапіенсы», чалавекі,
Ад розуму гора — было так не раз.
І дзе тыя граблі, і дзе тыя лекі,
Якія б вярнулі да розуму нас?

# Бясконцасць

Бясконцасць сусвету не дзівіць тады,
Калі адчуваеш жыцця даўгавечнасць,
Калі лёсу ўласнага зоркі-гады
Запальвацца будуць сваім Шляхам Млечным.

І ў сіле жыцця «даўгавечнага» плод,
Няхутка, здаецца, паспее пад сонцам,
О колькі запаліцца зорачак-год!
Падумаеш мера — сусвету бясконцасць!

Ах, як жа ён высах, маленства выток,
А плынь «даўгалецця» кіруецца ў Лету.
Адчуўшы, што наша жыццё — толькі крок,
Вастрэй адчуваеш бясконцасць сусвету.

## У роце мазалі

Жыццё або забава?
У кожнага сваё.
А нам якая справа?
Нам даражэй сваё.

«Сваё» — ўвесь свет агульны,
Мы зрошчаныя з ім —
Культурны і разгульны,
Разумны й не зусім.

Сваё? Ў жыцці глабальным,
Складана жыць «свайму»,
Нас шторм жыцця знішчальна
Змяце па аднаму.

Свае рашаюць справы
(Чужое ўсё — не ў лік)
І людзі, і дзяржавы,
А гэта ўсё ж — тупік.

І хоць ад гэтай тэмы
У роце мазалі,
Мы «мудрыя», але мы
Мазгоў не набылі.

Ці ж можна жыць дваяка,
Дзень мудрым, дзень дурным?
Мы слоўмі сцелем мякка,
Ды жорстка спіцца ўсім.

## Было у восені...

Плач адлятаючы у небе чуецца
І восень стылая да сонца туліцца.

Яна ўсіх цешыла, яна ўсіх вабіла,
Было у восені і лета бабіна,

Ураджаі важкія, палі прыбраныя
І спеўна-шумныя вяселлі знаныя.

Ды сколь ні радуйся, нішто не вечнае,
Бо недзе коціцца зіма сустрэчная.

І восень журыцца, ёй саступаючы —
У небе чуецца плач адлятаючы.

## Размова

Усё, што не сказаў я сваім родным,
Не дасказаў, адкладваў — потым, потым,
Пячэ душу маю агнём халодным
І сэрца труціць час той незваротным.

Я шмат сказаў ім і кажу не мала
Цяпер, калі мяне ніхто не чуе,
Запозненa кажу, як іх не стала —
І гэтым я сваю душу лінчую.

Не пацячэ мінулы час нанова,
Адзін без іх даўно я — шматгадова.
Ніхто мне не адкажа аніслова,
А я вяду ўсё з роднымі размову.

## Тры чашы

Жыццё падносіць нам з напоямі тры чашы,
І кожнай з гэтых чаш мы ведаем цану.
І мы, пакуль жывём, яны ўсе, быццам, нашы,
О не, не ўсе, бо з іх мы п’ём толькі адну.

Адна, з вядомых чаш, напоўнена мінулым,
У ёй — часоў і спраў даволі сумны цень.
Ёсць з будучыняй чаша, мы пра яе ўсе чулі,
У трэцяй — наша сёння, адзін кароткі дзень.

З адной мы чашы п’ём, як калісь нашы продкі,
Перыяды жыцця — мы маем цэлых тры.
Па сутнасці — адзін, і той самы кароткі,
Дзень, у якім жывём, штодзённа да пары.

Што будзе — не жыццё, а што было — тым болей,
Адно — надзея, мара, другое — успамін.
Я паднімаю чашу, якую Бог дазволіў,
І «сёння» п’ю да дна, рэальны дзень адзін.

## Сумны адліў

Прыліў быў шумны, яркі, гаманлівы,
І сэрца унісоніла з прылівам.
Я ў шумны час прыліва быў шчаслівы,
Адораны быў шчодра гэтым дзівам.

О як ўсё канчаецца імгненна
І сёння гэта мне, на жаль вядома —
На скронях засталася хваляў пена,
Ад хваляў часу засталася стома.

Прыліў адвіраваў вясёлы, тлумны,
Быццам прыход вясны, як вецер вольны.
І вось ужо адліў пачаўся сумны
І цягне за сабой мяне няўмольна.

## Неабдымнае абняць

Паколькі, ўсіх адорваючы, Бог
Не шкадаваў мне творчага здароўя,
Пісаў усёй душой, наколькі мог,
Пра ўсё у свеце не пісаць не мог я.

І ўсё ж баюся штó-небудзь праспаць,
Штодзённы пошук сэнсу — маё крэда.
І прагну неабдымнае абняць,
І так хачу нязведанае зведаць.

А свет, ён — таямніца таямніц,
А свет адкрыты для бязмежных мараў.
Святла — на жаль, і ценяў не злічыць
І ў душах, і на нашым зямным шары.

І асвятляю радасцю душу,
І адчуваю на шчацэ слязу я.
На колькі здольны, шмат аб чым пішу,
На колькі Бог дае, аналізую.

# За лепшы год

Апошні дзень сыходзячага года…
Што выказаць — падзяку ці праклён?
Усё ў яго актыве — плён і шкода,
І ўсё ж нашкодзіў значна болей ён.

Для нас, жывых, ён год жыцця — і гэта,
Дарунак важкі — дзякуй табе, Бог.
Хто мэты меў, таго крыліла мэта,
Хто — з плеч у печ, што ж, кожны жыў, як мог.

Але ж ёсць рай і пекла, Бог і чэрці,
Ён, лёсу шлях, складаны, не прамы.
Для многіх гэты год стаў годам смерці,
Заўчаснай смерці — памятаем мы.

Наперадзе — начныя пасядзелкі,
Ўсіх з Новым годам! — тост, як нейкі код.
Я вып’ю не шампанскага, гарэлкі,
За мёртвых, за жывых, за лепшы год.

*31.XII.2020*
*$21^{10}$*

## Супраць ветру

Ісці супраць ветру за гонар мы лічам,
Галовы нам круціць падзеяў віраж.
Што нас там чакае? І што там нас кліча?
Амбіцыі? Мэты? Адкрыцці? Кураж?

А вецер нярэдка мяняе напрамак
І дзьме ўжо не ў грудзі, а ў бок ці спіну.
І што? Нам крутнуцца да ветру таксама,
Каб толькі падняць самалюбству цану?

Так круціцца флюгер, ад ветру залежны
Ці лісце асенняе ў нас каля ног.
А свет вакол нас, таямнічы, бязмежны,
Штодня прапануе нам безліч дарог.

Ісці «супраць ветру» — тут вобраз у словах,
І ўсё ж, вельмі важна, не проста ісці,
А не адступаць на шляхах незнаёмых,
Свой «вецер» знайсці, свае мэты ў жыцці.

## Два жыцці

Сон — сябар ночы, ён, на жаль, не сябар мне,
Сон для усіх прыносіць адпачынак.
Усіх прысліць, абдыме, толькі не мяне,
Як дзецюка нялюбага дзяўчына.

Сон у жыцці, як хлеб, ўсяму ён галава,
Я з гэтай «галавой» сябрую мала.
Я днём, як і усе, а ноччу я — сава,
Бяссонніца між мной і сном паўстала.

О колькі творчых ніў пакінуў за спіной,
І сёння дзень і ноч на творчай ніве.
Каб скласці час начны, гады не спаны мной,
Былі б, напэўна, два жыцці ў актыве.

## Няўтульна стала на зямлі

*Светлай памяці*
*Дзмітрыя Пятровіча*

Як хутка паміраюць мары,
Змяніў іх рэквіем сабой.
Не загучыць твая гітара,
Не прачытаеш верш ты свой.

Жывуць так светла толькі дзеці,
Як жыў ты светла увесь час.
Ёсць шчырасці не шмат у свеце,
Якою ты адорваў нас.

Ты жыў, але не чорна-бела,
Ты ззяў вясёлкава штодня.
Твая усмешка сэрца грэла
І атуляла дабрыня.

Да крыўднага, пражыў ты мала,
Твае гады ўсе адгулі.
І без цябе, мой дружа, стала
Зусім няўтульна на зямлі.

*2020 г.*

## Вясна-сястрыца

Дзіўлюся — і не надзівіцца
Мне на цябе, вясна-сястрыца,
Ты маладзееш праз гады.
У квецені тваёй чароўнай,
З душой. надзей і мараў поўнай,
Раблюся й сам я малады.

Я — ад сакавіка да маю
Пяшчоты ад цябе чакаю,
Натхнення і духоўных сіл.
І ты, жыцця-імгнення свята,
Яго адорваеш багата
І нават не шкадуеш крыл.

Наперадзе зіма-пустэча,
І кожная з табой сустрэча
Прэч адганяе чорны год.
З надзеяй, без канца, без краю,
Вясна-сястрыца, я чакаю
Твой непаўторны надыход.

## Дзве мовы

«У нас — два родных языка!» —
Прагучала з высокай трыбуны…
У нас — дзве дзяржаўныя мовы,
А родная мова адна.
Прайшоў шосты сход
Усебеларускі ўрачысты і думны,
Ды «родная» мова на сходзе,
Зусім не гучала яна.

Чамусьці ніхто з выступоўцаў
На сходзе высокім — ніводны,
Не ўзняў беларускую мову да рускай —
У нас жа іх дзве.
О, Бог барані,
Каб быў нехта камусьці няродны —
Адна мова ледзь выжывае,
Другая над першай жыве.

*11-12.02.2021 г.*

## Не здрада

Усё дарую, толькі не хлусню,
Што можа быць больш дарагім, чым праўда?
А гэта што — адступніцтва ці здрада,
Калі цішком я сам сабе маню?

Маню, што час не уцячэ,
Што ўсё наперадзе яшчэ —
І лепшы твор, і лепшы год
І ваш, і мой духоўны ўзлёт.
Маню, што будзем без маны
Мы з вамі жыць — о я, дурны!
Маню, што ўсіх, яго, цябе
Я узлюблю нібы сябе,
І што ўзаемна, у свой час
Мяне узлюбіць кожны з вас…

Вось так я выкрыў сваіх думак ход
І гэта не адступніцтва, не здрада,
А крык душы, якая будзе рада
Сустрэць і лепшы твор, і лепшы год.

## Мой першы «А»

Я з вучнямі, вучыўся ў школе з кім,
Знаходжуся і сёння, як на ўроку.
І неастылым сэрцам я сваім
Гляджу на іх з далёкага далёку.

І вельмі жыва бачу ўсё праз час,
Кранальна ўсё ўспрымаецца і міла.
А клас жа, клас быў — ажно сорак нас
І шмат нас, шмат «на галаве хадзіла».

Прайшло аж цэлых семдзесят гадоў,
Як селі мы за парты першы раз.
О як бы я заскочыў шумна зноў —
Варакса, Шніп, Шадэўскі, Арцюхоў.
Штурхаючыся з вамі ў першы клас.

І сябравалася не менш мацней
З дзяўчынкамі, мы, як адна сям'я —
Шылкевіч, Васіленка, Галавей,
Серабракова — ўсіх вас помню я.

Даўно ўжо пасівела галава,
Плынь лёсу ўперад кожнага нясе.
Я не забыўся на свой першы «а» —
Як вы? Дзе вы? І ці жывыя ўсе?..

## Вечны кліч

Як цягне ў вёску, дзе мяне чакае
Пустая хата, поўная тугі,
З усіх бакоў мінулае гукае —
Куток бацькоўскі, сэрцу дарагі.

І тут мае ўспаміны-аднагодкі,
І родных галасы я чую тут,
Зямля, ў якой і продкі, і пра-продкі —
Не адпускае, кліча родны кут.

І гэты вечны кліч не ўчуюць вушы,
Хоць ён гучыць гады, вякі — заўжды.
Толькі душой пачуеш продкаў душы —
І я іх чую, чую праз гады.

## Пакуль не ведаю

Я Богу скардзіўся: — Душа пакутуе,
У сэрцы боль тугі, жыццё не мёд.
О, неба сіняе, ці буду ўчуты я?
І адказаў мне Бог на схіле год:

— Нагода скардзіцца ў цябе істотная,
Ты слову важкаму павер майму —
Мой сын, узрадуйся, з жыцця гаркотнага
Ва ўлонне райскае цябе прыму.

Не будзеш ведаць ты ні нечай зайздрасці,
Ні працы цяжкае й тугі без меж,
Ні вершаў-неслухаў, ні беднай старасці,
Адно спазнаеш ты — спі, пі і еш.

Пакуль не ведаю, ці Бог пачуў, ці не,
Як на ўвесь свет зароў я ў неба сінь:
— Прашу, пакінь, Гасподзь, усе пакуты мне
І на зямлі мяне між іх пакінь!

## Зноў белы танец

Вакол сонца неба сіні глянец,
Вакол нас бадзёрыцца сам час.
Зноў вясна спраўляе белы танец,
Запрашае нас усіх на вальс.

Я кружуся ў вальсе з белым садам
І чаромха кружыцца са мной.
Танчу з маладым пялёсткападам,
У абдымках з дзеўчынай-вясной.

Сціплы бэз вясне глядзіць у вочы —
Весялей — мы ўсе адна сям’я!
Пазяхае, бо не спаў ён ноччу,
Ў захапленні слухаў салаўя.

Баль, шматкалярова, легкакрыла,
Як у фантастычным кружыць сне.
Зноў вясна узнесла, падхапіла,
І панесла над зямлёй мяне.

## Ты не галоўны

Звініць зіма. Мяцеліцы багата
Пад кожны ганак гурбаў намялі
Які мароз! Усе сядзяць па хатах,
Падрыгваць зоркі ў небе пачалі.

Да цішы прыслухоўваецца чутка
Сама, ў нямым здзіўленні, цішыня.
Сабак, заўсёды брэшачых, не чутна,
Яны па будках заляглі да дня.

Іскрыцца снег, як казачная тога,
З-пад стрэх блішчаць настыла ледзяшы.
Прыціхла вёска, не відаць нікога,
Здаецца — і ў сусвеце ні душы.

Ласкавы голас чуецца раптоўна:
— Каханне! Ты для мяне адна! —
О не, мароз, ты сёння не галоўны,
Святкуе ў сэрцах маладых вясна.

Вясна кахання не баіцца зімку
І для кахання перашкод няма.
Стаяць вунь двое — ён, яна — ўабдымку,
Не заўважаюць, што вакол зіма.

# Нішы

Ў жыцці занятыя ўсе нішы,
Шукае кожны каб сваю.
А я не ў нішы, я на ўзвышшы,
Уласна створаным стаю.

Перада мной — жыцця прасторы
І далягляд, за ім — другі.
А ніша… Ніша — гэта шоры
І кут, няхай і не благі.

Няхай аздоблены прыгожа —
Камфорт, багатыя сталы.
Жыць чалавек і ў нішы можа,
А слову — і ўвесь свет малы.

## Святы прамень

Паціху поўз старэння лёд
Да сэрца, нішчыў мары.
Лёс вострым плугам кожны год
Маршчыны клаў на твары.

Час-сейбіт у душы маёй
Высейваў смутку зерне.
І над прыцішанай зямлёй
Спусціўся сум вячэрні.

Ды тое ўсё — ўсё, што было,
Гады не зруйнавалі.
Падзей тых, дзён, гарыць святло
Не ў менш жывым напале.

І мой світанак, ясны дзень,
Мой вечар «ля парога»,
Не згаснуць, як святы прамень,
Падараваны Богам.

## Икона

О жизнь моя! Шторма, прибой,
Событий вал, души икона.
Сегодня я перед тобой
Стою коленопреклонённо.

Шторма, событья бурных лет,
Перебесившись, пролетели.
Был мною каждый день воспет
В стихах ли, в мыслях ли, в душе ли.

Да, ты — икона, жизнь моя,
С суровым, с гордым, с добрым ликом.
Мечтал, с тобою в сердце я,
О вечном, главном, о великом.

И не твоя — моя вина
В том, что, порою, жил беспечно.
Теперь лишь осознал сполна,
Как ты права в движеньи вечном.

Я продолжаю крест свой несть
Ответственно, отнюдь не ленно.
И, благодарный, чту за честь
Перед тобой стоять согбенно.

## Прощальный полет

Вон, лист осенний, в тихую погоду,
Приобретя пурпурно-желтый вид,
Противясь притяженью, осени в угоду,
Замысловато над землей кружит.

Он знает, что пока еще в полёте,
Мгновения его не сочтены.
И этим он продлить паденье хочет,
Храня воспоминаний дивных сны,

Не забывая теплых дней весенних,
Вдохнувших в крону древ волшебный сок.
Теперь же он, кружа из сил последних,
Беспомощен и очень одинок.

Он — в солнечных лучах, он — в позолоте,
Круженье это — как прощальный приз.
Он отмер, но не умер — он в полете,
Полёт, пусть даже вниз — движенье, жизнь.

И вот земля… Он не плашмя, а краем
Её коснулся, задрожал и лёг…
Вот так и мы, противясь, умираем,
Стараясь отодвинуть свой итог.

## В веках живи!

Пришла весна любви — какая эта сила!
Не покидай сердца,— всегда, в веках живи!
И мне весны одной-единственной хватило,
Чтоб жить, любя, в весне, храня весну в любви.

О как ты высоко, небесное светило,
Но я в мечте познал иную высоту.
И мне мечты одной-единственной хватило,
Чтоб жить, любя, в мечте, храня в любви мечту.

Не мало жизнь моя с рожденья повидала —
Чувств светлых высоту, печали глубину.
Но жизни мне одной всё ж оказалось мало,
Чтобы воспеть сполна любовь, мечту, весну.

## Запретный плод

Когда любовь к любви не шлёт гонца
На крыльях мыслей, а сама стремится,
Когда в полёте встретятся сердца,
Когда на первый луч садится птица,

Чтобы скорей воспеть любви рассвет,
Тогда стремлюсь любовь в стихах воспеть я,
Преображая этот белый свет
В сторадужное дивное соцветье.

Моё благодаренье небесам,
Открывшим мне таинственные своды.
Я в нежных чувствах растворился сам,
Вкусив запретный плод, как дар природы.

И если этот мир любви воспет,
Моя заслуга в этом лишь вторична —
Воспет не потому, что я поэт,
А потому, что всё так поэтично.

## Мы – на костре

Поэты! Все́ наши амбиции,
Словно в удавке, в буднях масс.
Мы — на костре, а инквизиция —
Вселенская ненужность нас.

Костёр, сжигающий нас, холоден
От мёртвых душ со всех сторон.
Мир, не поэзией он голоден,
Пресыщен бездуховным он.

Ненужность нас — страшней попрания,
Начало страшного конца.
На пике душ похолодания,
Что нас спасёт от вымирания?
Лишь наши пылкие сердца!

Не будут лишними для ясности
Слова, реальные, как быль:
Поэты! Нынче жизнь в опасности!
Стряхнём же с рукописей пыль!

Важна ведь не любовь народная,
Другая здесь всему цена —
То, что среда безкислородная,
Увы, для жизни не годна.

## Поисков гортань

В сомненьях истину открыв
в какое-то мгновенье,
В ней восторжествовав, отдав упорству дань,
Мы вновь погружены в бессметные сомненья,
Нам осушающие поисков гортань.

Вновь жажда мучает открытий и познанья —
Открыв, познав, переживаем звёздный час.
Как вдруг сомнения — и дар, и наказанье,
Не отпускают нас и будоражат нас.

Вот так и движемся вперёд — за вехой веха,
Весьма уверенно, но и не без помех,
Но не сомнения гарантия успеха,
Сомненья могут лишь приблизить наш успех.

## Воссоединение

Истратив на путях земных не мало сил,
Я возвращался в край родной устало.
Я под крыло своих родителей спешил,
Как никуда и ни к кому, бывало.

Пик многих авантюр порой был крут и лих,
А их хватало в жизни повседневной.
Родители мои… ведь только возле них
Сполна я обретал покой душевный.

Смерть разлучила нас… Не отвратить беду…
Судьба в конце пути ко всем сурова.
И вновь в конце пути, устав, я к вам приду,
Смерть, разлучив, соединит нас снова.

## Познание

Поскольку жить никто не может дважды,
И жизнь одна, к тому же, коротка,
Познать себя стремиться должен каждый,
Хоть миссия познанья не легка.

Лишь солнце, отразившееся в луже,
Легко потрогать — вот оно, бери.
А чтоб себя познать, копаем глубже,
Попробуй разбери, что там внутри.

И я в себя вторгался, суетился,
Скорей детально разобраться чтоб.
Разворошил себя, но спохватился,
Остановился и воскликнул: — Стоп!

Я бросил этот труд, сомнений полон,
Не мало скрытых «я» растеребя.
Вдруг буду я собой разочарован
И невзлюблю себя, познав себя.

Бурлит во мне страстей моих стихия,
Известная и мне не до конца.
Меня пусть лучше познают другие —
И то, найдя лишь ключик от ларца.

## Поэт

Я с ранних лет носил в себе поэта,
Как мать дитя в себе, продляя род.
Я отпугнуть боялся чудо это,
Сорвать боялся недозрелый плод.

Я настороженно, не просто осторожно,
Из сердца извлекал побеги строк.
Вот почему, пусть позже, но не поздно
Возник моей поэзии исток.

Он превратился в ре́ку величаво,
Приняв притоки плодотворных лет.
Тогда я понял, что имею право
В душе открыто начертать: «Поэт!»

## Совмещение

Влюблён в себя бывает лишь глупец,
Самовлюблённость — как мираж в пустыне,
Где мир реалий извращён вконец
И правит бал самообман отныне.

Тот, кто себя не любит, тоже слаб
Самокритичным чересчур умишком.
Он — жалкий самобичеванья раб,
Порою, зря усердствующий слишком.

Жить разве можно нелюбя-любя?
Конечно, жить так было б очень туго.
Вы недругом взгляните на себя
И посмотрите вслед глазами друга.

И эти взгляды выровняют крен,
Отодвигая истину от края.
И больше вы не попадёте в плен
Обмана, эти взгляды совмещая.

## Реквием

В заблудшем современном мире,
Как никогда, мы вре́менны.
Все смещены ориентиры,
А многие утеряны.

Мир в некой страшной круговерти,
Жизнь неживым пронизана.
Распад бывает после смерти,
Но начался прижизненно.

Как лунные бывают фазы,
Так время злом помечено,
Так и безумья метастазы
Сжирают человечество.

Спаси нас, Боже всепрощальный,
Святая Богородица.
Жизнь катится к черте фатальной
И вряд ли остановится.

## Передышка

Жизнь — война, за веком век, за сечей сеча,
Кровь — вода для тех, кто сей «водой» умыты.
И не может жить жестокость человечья,
Если нету под ногами тел убитых.

Век за веком — обожженный, неспокойный,
Век за веком — жизнелюбия попранье.
И над миром, словно падальщики, войны,
И над войнами, предсмертные стенанья.

Не гремит пока, а если глянуть шире,
Вон видны конфликтов всполохи и вспышки.
Если кой кому живётся нынче в мире,
Это — между войн всего лишь передышка.

## Когда бы не было любви

Когда бы не было любви, мир был бы пуст,
Был бы подобен без команды кораблю.
И не услышала б луна из многих уст
Великолепное, волшебное «Люблю!»

Мир бы утратил свойства лучшие свои,
Не понимая в опустенье ничего.
И без любви весной не пели б соловьи,
Хоть рождены они, чтоб петь — но для кого?

Когда бы не было любви, кто были б мы?
Возможно, жалкое подобие слепца.
Любовь выводит человечество из тьмы
И зажигает вечным пламенем сердца.

## Творец ошибок

Идя дорогой чьих-то судеб,
И чьих-то болей зная гнёт,
Нисколько легче жить не будет,
Скорее, что наоборот.

История — хоть наш попутчик,
Мы друг от друга далеки.
Она нас на ошибках учит,
А мы? А нам признаться лучше —
Плохие мы ученики.

Приобретенья и потери,
Равны друг другу — раз на раз,
Когда мы лбами бьёмся в двери,
Открытые давно до нас.

Мы бьёмся в них, хоть нет задвижки —
Смешно? Но неуместен смех.
Затем на лбах считаем шишки,
Их принимая за успех.

Что ж, род людской не слишком гибок
В познаньи самого себя.
Он столько натворил ошибок,
Себя болезненно любя.

## Воображенье

Жизнь живя, доживая ли, мы, вместо тленья,
Можем ярко гореть, данным сердцу огнем.
Что за чудо имеем мы — воображенье!
Сколько были и небыли кроется в нём!

Мир огромен, но воображенью — объятен,
Бесконечность вселенной — имеет предел.
Можно вообразить даже солнце без пятен,
А вот пятна на совести я разглядел.

Жизнь — как лестница шаткая, очень крутая,
До чего ж ненадёжны ступеньки-года.
Все мы в воображении нашем витаем,
Вознося слишком рьяно себя иногда.

И тогда очень больно приходится падать,
На вершину стремясь не своей высоты.
Как же воображать осмотрительно надо —
Есть предел наших сил, хоть запросы круты.

Представлять себя выше возможного — лестно,
Но ведь это — фальшивый хрусталик для глаз.
Соразмерить не просто, но очень полезно,
Наше воображенье с реальностью нас.

## Поэты не нужны

Чего греха таить — поэты не нужны.
И это — боль, больнее нет которой.
Мы, нынешние, поздно рождены —
Свидетели своей кончины скорой,
Нас не стихом помянут, а просфорой.

Так воздадим же почестями той,
Которая звала людей из мрака —
Возвышенной поэзии святой,
Чтоб чёрствый мир, услышав нас, заплакал.

Чтоб вышел, наконец, из тупика,
Увидя то, что только сердцем зримо:
Поэзия, как воздух — на века,
Поэзия, как жизнь — необходима.

Но все эти мечты обречены,
Мечтателей, романтиков — век до́жит.
Увы, поэты нынче не нужны,
И всё же не писать поэт не может.

## Вы слышали?

Вы слышали? Ничто
Не вечно под луной,
И от того глаза
Скупая влага щиплет.
Садитесь-ка за стол,
Налейте-ка со мной,
Невечности назло
Не по единой выпьем.

Живём и будем жить!
Что может знать луна?
Дряхлеет этот мир,
А нам какое дело?
Налейте по второй
И, как всегда, до дна,
Да так, чтоб и луна
Подсесть к нам захотела.

О том, что всё пройдёт,
Не стоит хмурить бровь,
И если кто-то нас
Решил пугать, так тщетно.
Налейте пополней,
А третья — за любовь,
Она и при луне,
И без неё — бессмертна.

## Исключение

Жизнь — черно-белая, увы,
Альтернативы нет.
Избрать согласны я и вы
Конечно ж белый цвет.

Вон мрак глядит со всех щелей,
Взирает темнота.
А с белым — на душе светлей,
Соцветна с ним мечта.

Мы белый выбираем — да,
Без колебаний, но
Есть исключения всегда
И здесь со мной оно.

Покаяться не премину
И в светлом мире грёз:
Я поменял бы седину
На чёрный цвет волос.

## Упущенное время

То время ускользнуло от меня,
Писать когда бы о любви, о страсти,
Возникшей из взаимного огня,
И о её неукротимой власти.

Я не писал по молодости лет,
Знать своего ещё не встретил часа.
Я просто был влюблён, но не поэт,
Хоть зрел в душе грешок — поймать Пегаса.

Увы, я не писал в расцвете сил,
Когда любовь сжигает, бурно, страстно.
Пронёсся шторм, я время упустил,
Но ведь любовь и в тишине прекрасна.

Любовь со мной! И я бы мог вполне
Ещё воспеть, вознесть её стихами.
И всё же нынче неудобно мне
Размахивать, без драки, кулаками.

## Возвращение

Божницы нет, лишь тихая икона
Вероточи́т из красного угла.
Глядит в глаза мне мягко, возлюблённо,
И жизнь от этого вокруг меня светла.

Хоть шар земной наш безупречно кругол,
И мягкость драм округлости сулят,
Я сам порою жизнью загнан в угол,
Но и в углу я грешен и не свят.

Сгорая ли в полёте вдохновенно
Или влачась под грузом бед и лет,
К иконе возвращаюсь неизменно,
В родную хату — здесь мой мир и свет.

Здесь даже молодеет моя внешность
И оживает внутреннее «я».
И верит сердце в святость и безгрешность,
И снова мне не в тягость жизнь моя.

## Ручьи-притоки

О как ручью пробиться тяжко
К теченью вольному реки.
Он, то поранится, бедняжка,
О пасть камней, попав в тиски,

То, как бы не последнем вздохе,
Он продирается чуть-чуть,
Где нагло лопухи-пройдохи,
Сплетаясь, преграждают путь.

Но если б не ручьи-притоки
Вливались страстно в русла рек,
Навряд ли был их столь широкий
И столь величественный бег.

Вот так ручьи-стихотворенья,
Борясь, насколько им дано,
Стремятся в жизнь, в её теченье,
Чтоб вдруг не замерло оно.

## Расцвёл – завял

Лишилось лето прежней красоты,
А мы не удостоились заметить,
Как умирали на лугах цветы,
Рождённые под тёплым небом в лете.

Мы видим только буйство лепестков
И торжество упругое бутонов,
А август пролетел — и был таков,
И лето, отзвенев, лишилось трона.

А о цветах мы вспомним через год,
Когда луга зашелковятся цветом.
В природе вот такой круговорот
И с нами, как ни жаль, не только с летом.

Цветения период сердцу мил.
Но коротко́ короткой жизни лето.
Расцвёл — завял, родился — и почил,
И хорошо, если заметят это.

## Великий дар

Живя в деревне, но
В миру необозримом,
Свой видя уголок,
Но видя шар земной,
Всегда принадлежал
Душой я к пилигримам,
Был хаты потолок
Вселенной надо мной.

Фантазий не считал своих
Игрой невинной,
Я представлял себя
Романтиком всерьёз.
Я видел облака,
Как парус Бригантины,
Который уносил
В мир, мной рожденных грёз.

Взлетая на мечте
Восторженно и выше,
Я видел цель своих
Фантазий вдалеке.
В реальность уходя,
Из грёз своих не вышел —
Синицу отпустил,
Зачем она в руке?

Какой великий дар
Вселил в меня ты, Боже —
Жизнь воплотить в мечту
И не расстаться с ней.

Весь мир живёт во мне —
Что может быть дороже?
Я в мире растворён —
Что может быть ценней?

Я с этим жил всегда,
Не замечая фальши,
Творящейся вокруг,
Сметая с фальши грим.
Чем больше я живу,
Тем от восторга дальше,
И всё же по́ сей день
В душе я — пилигрим.

## Доиграть достойно роль

Жизнь, говорят,— театр,
А с вами мы — актеры
И в жизни роль у каждого своя.
А если это так,
Знать неуместны споры,
С одним лишь только не согласен я.

Актёра тяжек труд,
Спасибо театралам —
Сердца сжигают, этот труд любя,
Играют ли в Большом театре
Или в Малом,
Спектаклям отдают всего себя.

На сцену выходить —
Почётно и престижно,
Кто б ни был — начинающий, звезда.
Своею жизнью жить
И жить чужие жизни
Надрывно, убедительно — всегда.

Остатки сил отдав,
Поток эмоций вылив,
Всем показав, что он не лыком шит.
Все акты отыграв,
Иссякнув, обессилев,
Он за кулисы отдохнуть спешит.

Жизнь, говорят,— театр,
Да, мы играем роли
Дельцов, интеллигентов, работяг.

— Ах так, дык не быць табе з ёю ніколі!
Дарунак табе мой, Алена! —
І стрэліў раптоўна ў дзявочае сэрца,
Антось, без вагання, імгненна

Закрыў яе сэрца сабой, сваім сэрцам
І ўпаў каля ног сваёй любай.
Алена ж над ім засталася бярозкай,
З ім вечным звяза́ная шлюбам.

*

Такое паданне… Агучыць я рады
І выкласці ўсё на паперы.
Цяпер вырашайце ці ў чутым шмат праўды,
Ці варта піса́нае веры?

А ў нашыя дні, хіба ж ён не бывае
Трохкутнік так званы, любоўны?
Таксама ён сувязі ўсе разрывае
І родных, і адзінакроўных.

Мы любім усе даўніну без ваганняў,
Па-свойму ўспрымаем і цэнім.
Калісьці і мы з вамі станем паданнем
Для новых часоў, пакаленняў.

*8.01.— 12.01.2021*
*Мінск*

## Калядны цуд

Абрыдлы пост прайшоў —
І сёння, на Каляды,
Хоць і раней Савось
Да гэтага быў ласы,
Сеў за святочны стол,
Кульнуць быў вельмі рады,
Пад бульбу, пад капусту,
Пад сала, пад каўбасы.

Змагаўся за сталом
Савось, ажно да поту,
Застольны ж пот — не дождж,
За карак не цячэ.
Пілося — упрыцмок,
І елася — ўахвоту,
І колькі ён не піў,
Хацелася яшчэ.

Адно не па нутры,
Што жонка каля боку,
Як зуб, які баліць,
Хоць рві яго, не рві.
Яна, як бервяно,
У нецвярозым воку,
Казала напрамкі Савосю,
Без намёку:
— Ты п’еш — не перапі,
Ясі — старанна жві.

Святочнае жыццё
Падобнае на казку —
Савось гэта адчуў,
Пагладзіўшы жывот.

Ад пуза закусіў,
Напіўся пад завязку —
І аблізнуўся ён,
Як, сала з’еўшы, кот.

Да ложку ледзь дайшоў
І — бух набакавую,
Адразу храпака задаў
На ўсе лады.
Ды раптам над сабой
Ён голас жонкі чуе:
— Ці ж можна легчы спаць
Пасля такой яды?

Ад лішняе вагі
Ці будзе шмат карысці,
Табе і так на нос
Узлез ужо жывот.
Устань, не лежабоч,
Ідзі і пратрасіся,
Працверазі мазгі
Марозам, абармот!

Савось на ложку сеў,
Хаця паспаць маніўся,
Пад лыжачкай пякло,
У галаве гуло.
Ціхутка уздыхнуў:
«Начорта я жаніўся?
І спаў бы я цяпер,
І звягі б не было».

Савось рашуча ўстаў:
— З Ражством, святы Ісусе!

Прабач за гэта мне,—
Зняў стрэльбу са сцяны.
Паколькі раяць мне,
Пайду і пратрасуся,
І несвяточны дзень
Зраблю для дзічыны́.

Адразу жонка ў крык:
— Ты што, здурнеў, Савоська!
Кінь стрэльбу! Ты ж п'яны́!
На ложка лезь, назад.
Савось зарагатаў:
— Выконваю я, Зоська,
Як і жадала ты,
Жаночы твой загад.

А Зося ў слёзы, ў плач:
— Савоська, ты ж пад мухай!
Савось ціхшком узяў
Бутэльку са стала.
— Ну, жонка, пажадай
Мне ні пяра, ні пуху
І — што ні куст, ні крок,
Дзічына каб была…

Што гэта будзе так,
Ён меў не надта веры
Ды адступаць назад
Савось ужо не мог.
Ён шумна расчыніў
Перад сабою дзверы
І хісткаю хадою
Крочыў за парог.

Спачатку ён ішоў
Праз лес даволі смела,
Штось спрабваў напяваць,
Бадзёрыўся, як мог.
І след яго віхляў
Між соснаў і між елак,
Вядома ж, выпіў ён
За дзвух, а мо й за трох.

Кусаў мароз за нос
І снегу па калена
І сп'яну у вачах
П'яны́ хістаўся лес.
Савось з дзіцячых год
Лясы ведаў нядрэнна,
Таму усё глыбей
У гушчарыны лез.

Ён шмат так папятляў
Без мэты і без толку.
Раптоўна цецярук
Ўзляцеў і сеў на сук.
Савось схапіў з пляча
Надзейную двухстволку —
Палохаў цішыню
Страшэнны сэрца стук.

Прыцэліўся Савось
І на курок націснуў…
Націснуў на другі,
Ды стрэлу не было.
А цецярук хвастом
На развітанне бліснуў,
Знікаючы між дрэў,
Узняўся на крыло.

Савось разявіў рот,
Не разумеў нічога,
Глытаў нешанцаванне
І крыўду — напалам.
Яшчэ раз памянуў,
Не вельмі добра Бога,
І «разламаў» ружжо,
Зірнуў туды, а там…

Патронаў не было —
О, п’янка, ледзь не кома,
Адпітыя мазгі
Былі ўсяму віной
Патронаў не было —
Ён іх забыўся дома,
Таму плаціў цяпер
Такою вось цаной.

Ды цецярук — луска,
Не дужа быў і трэба.
Ён раптам уявіў,
Як у жахлівым сне —
Цямнее пакрысе
І мурзаецца неба,
Глядзіш, і ноч усё
Наўколле паглыне.

У дадатак да ўсяго,
(Савось аж разгубіўся)
Дзе вёска? Хата дзе?
Дзе, у якім баку?
З дарогі збіўся ён,
У лесе заблудзіўся,
Ён першы раз адчуў
Такое на вяку.

Так, перад жонкамі,
Ўсе мужыкі героі —
Сюды ж Савося, ў лес,
Гарэлка прываяла.
І тут Савось адзін,
Адзін, лічы, без зброі,
Бо стрэльба без патрон,
Нібыта чапяла.

А ноч усё бліжэй,
А страх сціскае грудзі,
І цемрай пазіраў
У вочы кожны кут.
Ён кінуўся ў бакі,
Як зайчанятка, ў спудзе,
Ён нават закрычаў,
Ды хто пачуе тут?

Ён сеў на нейкі корч,
Спустэшана і цяжка
І нізка апусціў
На грудзі галаву.
І раптам — мац кішэню,
Дастаў з гарэлкай пляшку —
І запаліўся ўвесь Савось —
Цяпер жыву!

Цяпер не страшны чорт!
І выглыкаў бутэльку,
Да кропелькі, да дна,
Не дыхаў — глык ды глык.
За Ражджаство Хрыста!
За светлую нядзельку!
І ты бывай здароў,
На небе, маладзік!

Устаў Савось з карча
І азірнуўся смела,
І хоць кусаў мароз,
Яго лягчэй трываць.
Адтала ў галаве,
Ў душы заласкавела —
Эх, каб цяпер знайсці,
Дзе ночку пераспаць.

Дык вось жа пад карчом
Нара ці лаз, ледзь бачны.
Савось туды залез —
Мароз тут абміне.
Ён штосьці мармытаў у сне,
Заснуўшы смачна,
Ён жонку абдымаў
У тым салодкім сне.

І ноч гэта прайшла
Імгненна і нябачна,
Бо кожнаму для сну
Гарэлка, як наркоз.
Працверазей Савось
І пацягнуўся смачна,
І нейкі пах адчуў,
Ажно вярнула нос.

Нічога не відаць,
Не разабрацца воку —
Няўжо ў валёнках ён,
Не распрануў кажух,
І спіць на ложку так,
А жонка каля боку?
Ды не! Дае у нос
Зусім не жончын дух.

Каго ж я абдымаў?
З кім спаў я, ёлкі-палкі?
Няўжо з суседкай спаў я —
Божа барані.
З кішэні ён дастаў
І чыркануў запалку —
І што ж убачыў ён
У кволенькім агні?

Ён ледзь не закрычаў,
Рот сціснуў рукавіцай,
Баяўся удыхнуць
І варушыцца ён.
Такое не магло
І ў страшным сне прысніцца,
І гэта ўсё было
Страшней за страшны сон.

О, лепш бы замярзаў
Ён ноччу на марозе,
Чым выпіў і затым
Залез пад гэты дах.
З мядзведзіцай праспаў
Ён ночаньку ў бярозе,
Яе і абдымаў,
Як жонку — сорам, жах!

Савось спіхнуў з мазгоў
Падпітасці ашмёткі,
Паціху адпаўзаў
Ён, дыхаючы ледзь.
Мядзведзіцы, напэўна
Прысніўся сон салодкі,
Што абдымаў яе,
Не, не Савось — мядзведзь.

І вось ён, родны лес,
І новы дзень, і сонца,
Дахаты крочыць ён
Бадзёраю нагой.
А як цяпер глядзець
Яму у вочы жонцы,
Не можа ж ёй сказаць.
Што ноч праспаў з другой.

А праўду ёй сказаць
Пра гэту ноч ля звера,
Пра незвычайны сон
І пра калядны цуд,
Дык засмяе яна,
Дык жонка не паверыць —
Не, моўчкі лепш Савось
Рашыў прыняць прысуд.

*20.01.—21.01.2021*

## Самародак

Капаючы бульбу,
Дзям'ян натыкнуўся на камень рыдлёўкай —
Падумаеш, камень,
Ці ж мала ў зямлі камянёў.
Ён камень шпурнуў на мяжу
Па-спартыўнаму, лоўка,
Ды бліснула штосьці на ім
І Дзям'ян да яго падыйшоў.

У рукі узяў
І разгледзеў уважліва камень,
Пацёр рукавом
Там, дзе быў ад рыдлёўкі надсек.
Наблізіў яго да вачэй
Асцярожна, дрыготка рукамі
І тое убачыў,
Ніколі чаго не трымаў у руках
За свой век.

І спёрла дыханне,
І сэрца у скокі далося,
Калені Дзям'янавы ў дрыжыкі
Раптам пайшлі.
Такога й прысніць ён не мог
У сваім горкім лёсе —
Каб тут, сярод бульбы,
Як кажуць, ля самага носу,
Хавалася золата
Столькі гадоў у зямлі.

Яшчэ раз пацёр самародак Дзям'ян,
Лямпу бы Аладзінаву тую —
«Ну, Божачка, дзякуй,

Нарэшце мы з жонкай
Больш вольна ўздыхнём,
Куплю сабе новыя боты з ватоўкай…»
Раптоўна ён з вуліцы чуе:
— Ты што там малітву чытаеш,
Дзям’яне, стаіш з камянём?

Стаяў з матацыклам на вуліцы
Сам участковы,
Дзям’ян, вазьмі й ляпні:
— Вось, золата я адкапаў…
І адразу ж панік —
Сябе за прызнанне такое
Забіць быў гатовы,
Хацелася вырваць зусім
Свой, такі непатрэбны, задоўгі язык.

Ды позна было ўжо…
— Што, золата, кажаш?! —
І пагоннік падскочыў.
— Ану пакажы! Не хавай ад уладаў
Свой клад.
Схапіў самародак і сквапнасцю
Бліснулі вочы,
Дзям’ян жа стаяў,
Быў чарней чорнай ночы,
Бо ведаў, што цэннай знаходкі
Не верне назад.

— Дык вось,— участковы сярдзіта сказаў,—
Самародак я енты
З сабой забяру, экспертызу утворым яму.
Калі ён сапраўдны —
Ты свае атрымаеш працэнты,
Вось іх спажывай —
Будзь удзячны старанню майму.

Ускочыў на свой матацыкл і папёр,
А за ім пыл кудлаты.
Нібыта надзеі Дзям’янавы,
Ён раставаў пакрысе.
Дзям’ян быў хвіліну ўсяго,
Як лічыў ён, багатым,
Цяпер багацее у думках,
Як мы, багацеем усе.

Ішлі дні за днямі,
Згасалі надзеі ў Дзям’яна,
І нават у думках бядак,
На багацце ўжо
Не разяўліваў рот.
Але участковы прыскочыў
На двор да яго нечакана
І дэманстратыўна шпурнуў
Нейкі камень пад плот.

— Ну ты выдумляльшчык, Дзям’ян,
І работу задаў мне,
Бо клопатаў большых
Не ведаў на службе я,
Колькі жыву.
На, свой самародак!
Ён золатам нават не пахне,
Дарэмна ты байкамі, браце,
Дурыў галаву.

Паколькі Дзям’ян хваляваўся
Ўсе дні,
Хваляваўся й начамі,
Бо сэрца сціскалі балюча
Падзей абцугі,
Ён зараз з надзеяй схапіўся за гэты,

Прывезены камень
І крыўда душу апаліла —
Не той гэта камень, не той,
А звычайны, другі.

Цяпер у душы не было
І маленькай надзеі,
Ніхто не паверыць яму,
Хоць крычы,
Хоць раві тут раўма,
Ён кінуў услед матацыклу балючае —
Ну й прахіндзеі,
Ніякай управы на вас не было
І няма.

*

Аднойчы прыехала ў вёску
З раёну вялікая шышка,
Падняць каб удоі альбо ураджаі —
Хаця б на паперы падняць.
Дзям'ян, дзеля смеласці,
Выпіў нямала кілішкаў,
І ўсё расказаў гэтай шышцы
Пра свой самародак,
Каб крыўду і боль хоць крыху́
Ў сваім сэрцы суняць.

Начальства — на тое й начальства,
Яно да людзей, па-бацькоўску, аддана,
Яно ўсёй душой да людзей,
Хоць прыкладвай да ран.
— Я твой самародак вярну! —
Супакоіла шышка Дзям'яна,
І зноў багацець стаў у думках
Шчаслівы Дзям'ян.

Вярнуўся ў раён
З гэтай вёскі начальнік — і сходу
У рог у баранні
Таго участковага гне.
— Дык ты, сукін сын, гэтак служыш
Дзяржаве й народу!
Каб той самародак,
Які ў чалавека забраў без ягонае згоды,
Каб ён, а не камень падманны,
Быў сёння ў мяне.

Я заўтра ж яго адвязу
Чалавеку таму, ў вёску тую,
Як і абяцаў я яму,
Маё слова — закон.
А ты — прыкусі свой язык
І, магчыма, табе я дарую,
А будзеш мянціць языком —
Прэч пагоны з плячэй і з міліцыі вон.

І слова стрымаў,
І вярнуў «самародак» назад абяцаны:
— Вось камень, які участковы аддаў мне,
Дык гэта ж не золата. Не!
Цяпер і начальнік, замест самародка,
Прывёз ашуканства Дзям’яну…
— Каб ты свайго ценю баяўся! —
Дзям’ян «дабрадзея» кляне.

Ужо праз гадзіну, прыпёрся сюды
участковы
І — ў хату без стуку:
— Ну, дзе самародак?
Хачу я пабачыць яго, пакажы!

— Які самародак? — скрывіўся Дзям'ян,—
Той начальнік прывёз камянюку,
Звычайны ён камень прыпёр,
Вунь, ляжыць на мяжы.

— Ну што ж,— мацюкнуўся ўчастковы,—
Грабеж пад сябе без разбору?
Турэмнай пахлёбаеш ты баланды
І на нарах паспіш…
І ён чыркануў ананімку — не абы каму,
А даслаў пракурору,
І тым на кар'еры начальніка
Ставіў ён крыж.

Дзям'ян і не сніў, і не думаў,
Што, бульбу капаючы зранку,
Ён нервы сабе сапсуе
(За якія такія грахі?),
Што цэлы раён заразіць самародкам сваім —
Залатой ліхаманкай,
Не цэлы раён, а, дакладней,
На золата клюнулі, нашы кармільцы — вярхі.

І вось пракурор,
Як належыць яму па статуту,
Начальніку тэлефануе
І з трубкі грыміць яго голас,
Як гром — ад яго хоць бяжы:
— Ты што, у турму захацеў?
Ты навошта людзей баламуціш?
Ты, кажуць, на золаце спіш,
Хапянуў самародак чужы.

Закон наш для усіх,
Для мяне, для цябе — ён адзіны,

Сурова карае!
Таму, каб турмы ты пазбавіцца мог,
Хапай самародак — і з ім да мяне,
Праз якіх паўгадзіны,
А я буду думаць, куды цябе дзець мне —
Імчы з усіх ног.

Вось так самародак Дзям'янаў,
Вядомы ўжо і знакаміты,
У сейф пракурора патрапіў,
Ды доўга ён не затрымаецца там
Таму, што начальнік,
Як кажуць, не лыкам быў шыты,
І ён напісаў ананімку
Ажно у партыйны райкам.

А партыя наша была, як вядома,
Вышэй нават Бога,
Сумленнем і розумам нашым,
І чэсцю была.
І голас у трубцы гучаў
Па-бацькоўску, нястрога:
— Як справы твае?
Хоць кажуць, што у пракурораў
Не справы — «дела».

Я ведаю, судзіш ты строга усіх,
«Не взирая на лица».
Што ж, правільна судзіш,
Я гэта вітаю — закон ёсць закон.
А чуў ты, што Ленін сказаў —
Трэба з бліжнім дзяліцца?
А Ленін дурнога не скажа,
Разумны быў ён.

Сціскаўся ў камяк пракурор,
Адчуваў цішыню перад бурай.
— А чым падзяліцца мне з вамі?
Усё я аддам.
Гатовы я з вамі дзяліцца
Апошняй кашуляй
І нават апошні кавалачак хлеба
Гатовы дзяліць напалам.

— Ха-ха! — загрымела з райкама,—
Кладзеш мне кавалачак хлеба на сподак!
Кашулю з штанамі ў дадатак —
Ты сам гэта еш!
Навошта ж ад партыі нашай
Схаваў залаты самародак?
Імчы да мяне яго хутка,
Інакш у турме ты згінеш.

Магчыма, й далей самародак
Працягваў гуляць бы па свеце —
Аматары лёгкай нажывы
Працягваюць дзейнасць і сёння сваю.
Але паявіўся раптоўна артыкул
Ў раённай газеце,
Якая калісьці ў Дзям'яна
Ўзяла інтэрв'ю.

Дзе ён распавёў
Пра шчаслівы той дзень і… няшчасны,
Як бульбу капаў
(Хаця бульба для справы не ў лік),
І як самародак знайшоў
На сядзібе уласнай,
Як той ад яго
Нечакана й загадкава знік.

А прэса — ого! —
Гэта пятая наша улада,
Яе нездарма паважае й баіцца
Заўсёды ўвесь свет.
Яна і тады, пры Саветах,
Пярчынцы любой была рада —
І хутка знайшла самародка
Заблытаны след.

*

Ішло пасяджэнне суда
Ў, да краёў, перапоўненай зале,
Героем, галоўнай асобай
Зрабіўся Дзям'ян неўспадзеў.
Даволі пікантную справу
Ў раённым судзе разглядалі
Судзілі усіх, хто прысвоіць сабе
Залаты самародак хацеў.

Суддзя зачытала судовую справу
І сутнасць яе, галасіста,
На сцэне сурова і моўчкі
Ўвесь склад быў суда.
І тут на стале, перад залай усёй
Самародак ляжаў урачыста —
Дзям'янава радасць,
А вось для падсудных — бяда.

Раптоўна на сцэну падняўся вайсковец,
Як водзіцца, «пры эпалетах»,
Звярнуўся да суддзяў усіх,
Ні з таго, ні з сяго:
— Прабачце вы мне
І дазвольце зірнуць на штуковіну гэту,—
І ў рукі узяў самародак,
І пільна агледзеў яго.

— Увага! — у залу гукнуў ён,—
Для страху вялікага
Я тут не бачу прычыны,
Падсудныя ўсе — вінаватыя ўсё ж
Без віны.
Не золата гэта, а корпус нямецкай
І неіржавеючай міны,
Якая ляжала ў зямлі
Аж ад першай сусветнай вайны.

Ад гэтых, даволі спакойных,
Вайскоўцам агучаных слоўцаў,
Даліся ўсе ў дзверы,
А суддзі — пад стол, на зямлю.
Застаўся у зале Дзям’ян
І, як цень, падыйшоў да вайскоўца:
— За што ж я цяпер
Сабе боты з ватоўкай куплю?

А я ж на працэнты разлічваў —
Во лёс-безгаловец!
Я зноў мушу жыць,
Як дагэтуль і жыў, без надзей.
Дзям’яна абняў з цеплынёй,
Супакоіў вайсковец:
— На дзесяць ватовак і ботаў
За гэту знаходку заплоціць музей.

Такі вось канец —
І сенсацыі маюць ліміты.
Ў сумленным раёне
Наверх несумленне ўсплыло.
Дзям’ян з сваёй жонкай абноўку купіў,
Стаў для усіх знакаміты —
І зноў. вунь, дае інтэрв’ю,
Што ўсё гэта напраўду было.

І я, калі хтось надрукуе
Мой гэты аповед, так званы,
Што будзе вяршыняй амбіцый,
Вяршыняй пісьменніцкіх мар,
У вёсачку тую,
Вядомаму ўсім нам Дзям'яну,
Увесь, да апошняй капейкі,
Пашлю ганарар.

Цяпер, праўда, аўтарам плоцяць —
Пішы геніяльна ці блага,
Такія капейкі — ватоўку не купіш,
Не цешся дарма.
Пашлю хоць капейкі Дзям'яну,
Не грошы галоўнае — ўвага…
Прабачце, калегі-паэты,
Для нас, ані ўвагі, ні грошай няма.

*21.01.—22.01.2021*

## Праўдзівая мана

Калі нядзеля надыходзіла,
Мужчыны
Без запрашэнняў, без прынукі,
Кожны раз,
Збіраліся
Без аніякае прычыны,
Любілі бавіць табалой
Свой вольны час.

Хтось анекдот распавядзе,
Хтось зманіць штосьці,
Заўжды знаходзіўся язык,
Як памяло.
Добразычліва ўсё праходзіла,
Без злосці,
Ну, што яшчэ дадаць тут?
Весела было.

Вясковец кожны
Памяркоўны меў характар,
Таму ніхто не лез
Зласліва на ражон.
І вось Антось Шальмец,
Вясковы завадатар,
Усім прысутным
Прапануе хітрасць ён.

Яго задумка
Прагучала нечакана
І сёння несла
Для прысутных навіну́:

— Скажыце, галубцы,
Хто з вас чытаў пра пана,
Што ўзнагароджваў
За праўдзівую ману?

Калі, напрыклад,
Хтосьці так маніў прыгожа,
Так языком
Пра незвычайшчыну мянціў,
Калі пярэчыў пан:
— Такога быць не можа!
Манюку ён за гэта
Золатам плаціў.

Дык вось і сёння, галубцы,
Такая штука —
З вас выдумляльшчык кожны,
Кожны балабол.
Усё, што хочаце, маніце,
Я ж без гуку
Вас буду слухаць —
І калі згаджуся з чутым,
Тады няўдалы раскашэліцца манюка,—
Гарэлкі пляшку ставіць
На агульны стол.

— А калі не? —
Спытаўся хтосьці асцярожна,—
Дасказвай думку,
Галаву нам не дуры.
— А калі не,—
Шальмец зазначыў пераможна,—
Тады я стаўлю на агульны стол
Аж тры!

— Ого! — огокнулі
Аднавяскоўцы хорам,
І завагаліся, і шэпчуць —
Пык ды мык.
Хто ж будзе першы з іх,
Каб стаць для ўсіх узорам,
Хто з іх адкрые сёння
Пераможны лік?

Засумняваўся хтосьці:
— Ты такі дарадца,
Што скінеш грэх на плечы нам
З сваіх плячэй,
Дык ты ж хітрун, Антось,
З усім будзеш згаджацца,
Каб толькі з нас бутэлькі
Выцягнуць хутчэй.

І тут Шальмец
Пераканаўча запярэчыў:
— Маніце так, каб я сказаў:
Не можа быць!
Тады і грэх мой
Не адчуюць вашы плечы —
Няўжо так цяжка
Штосьці «гэткае» зманіць?

Ну, галубцы, чакаю я,
Кульнуць прыспела,
Хто з вас мяне сваёй маной
Прыцісне ў кут?
Наперад выйшаў
Асцярожна і нясмела,
Даволі здатны на язык,
Мікола Шут.

Шальмец жахнуўся жартам,
Быццам клоун нейкі:
— Цябе, Мікола, я й баяўся,
Бачыць Бог.
Давай выкладвай,
託ваёўвай тры бутэлькі,
Распавядальшчык ты у нас —
Адзін за трох.

Мікола сціпла перарваў
Антося спрэчку,
Бо добра ведаў,
Што Шальмец — з трапла трапло.
— Аднойчы летам я палез
Скупнуцца ў рэчку,
Бо ад спякоты й дрэвам
Спасу не было.

Плыву, плыву сабе,
Грабу уперад смела,
Вакол, з усіх бакоў,
Шырокай рэчкі гладзь.
І рэчкі нашай плынь
Бадзёрыла мне цела
І раптам з-пад вады
За ногі хтосьці — хваць!

І цягне, цягне ўніз,
На глыбіню, ў бяздонне,
Спрабую я ў вадзе,
Ў бяздонні крыкнуць SOS!
Хоць тое ўсё даўно было,
Здаецца — сёння
І чым глыбей, тым жах мой болей
Рос і рос.

Я — ўсё-такі рыбак,
А тут — антырыбалка
Я быў тут не рыбак,
Я быў ужо — улоў.
Злавіла за нагу
Мяне тады Русалка
І пацягнула ўніз
Паміж крутых віроў.

А вось і дно ужо,
Яна глядзіць мне ў вочы,
Прыгожая —
Такіх не знойдзеш баб.
Я ёй пачаў пратэставаць:
— Чаго ты хочаш?
Я ж без хваста, зірні —
Пусці мяне назад.

Гляджу, здзівілася
Мая Русалка дужа:
— Ты ж ацані,
Якая ёсць я прыгажосць
Застанься тут, са мной, Мікола,
Будзь мне мужам.
Тлумачу ёй:
— Ў мяне наверсе жонка ёсць.

І, да таго ж,
Душа мая пратэставала:
— Ты адпусці мяне, Русалка,
На зямлю.
Гарэлкі тут няма,
Не бачу я і сала,
Прабач ты мне —
Я рыбнай стравы не люблю.

Не трэба здзеквацца з мяне,
Пабойся Бога!
І тут яна з абдымкаў
Выпхнула мяне:
— Плыві сабе наверх
А я злаўлю другога,
Разумнага, які захоча
Жыць на дне.

Каб у «суддзі»
Не заставалася сумненняў,
Рашыў паставіць кропку
Ўсхваляваны Шут.
— Такое вось тады
Было са мной здарэнне,
А што я вынырнуў з вады —
Вялікі цуд.

Затым на Шальмяца
Зірнуў ён пераможна,
А той услых, спакойна
Думкі гнуў свае:
— Табе я веру, Шут,
Бо так бывае з кожным,
Хто, перад тым,
Як лезці ў рэчку, перап'е.

З табою, браце Шут,
Я пагаджуся цалкам,
Бо з тым, хто топіцца,
Ўсе глюкі заадно.
Ты, безумоўна, Коля,
Бачыць мог Русалку —
Быў ты ў агоніі,
Калі пайшоў на дно.

Так, ты ляжаў на дне,
Паклаў жыццё на шалі
І гэта ўжо — святая праўда,
Не мана.
Тады АСВОДаўцы цябе уратавалі
Яны да жонкі
Паднялі цябе са дна.

Так што з цябе, браток Мікола,
Зараз пляшка,
Што ж, ты стараўся шчыра
Для агульных спраў.
І Шут дастаў з кішэні,
Уздыхнуўшы цяжка,
І ён на стол паставіў тое,
Што прайграў.

— Ну, хто наступны? Га?
Бо час абеду блізка,
А ў нас на ўсіх
Адна бутэлька усяго.
Смялей! Смялей!
Ну, можа ты, сусед Барыска?
Шальмец суседа раптам
Запытаў свайго.

— Што ж, згодны, я дык я.
Вось што было са мною,—
Як мокрае гарыць,
Барыс распавядаў,—
Зіму, чамусьці пераблытаўшы
З вясною,
Схапіў рыдлёўку я
І грады ускапаў.

Зямлі тады перапапаціў —
Процьму, горы,
Усё пасеяў, пасадзіў,
Што толькі мог.
І ўжо у студзені
Паспелі памідоры,
А агуркі сабраць у лютым
Бог памог.

Дык гэта ж, пэўна,
Канец свету, не іначай,
Парадку нават
У прыродзе не чуваць.
Цяпер вось лета на дварэ,
А жонка плача —
А ураджай зімовы
Нам куды дзяваць?

Ну што цяпер, Антоська,
Скажаш ты на гэта? —
Барыс спытаўся хітра,—
Вось табе й зіма.
Шальмец сказаў: — З табой я згодны,
Канцом свету
Завуць прыроду ў свеце
Сёння нездарма.

Расповед твой, браток Барыс,
Як, кажуць, міма,
Твае ўсе словы, гэта —
Не казырны туз.
Якія з году ў год
Да нас прыходзяць зімы?
Ні маразоў табе, ні снегу —
Плюс ды плюс.

Прырода страціла,
Ствapaла што вякамі,
І мы не ведаем —
Што пекла, а што рай.
Ды дробязь сёння
Памідоры з агуркамі,
Цяпер зімой,
Хоць ты кладзіся й загарай.

Такая вось цяпер
Прыродная закваска
І невядома, што бярэцца
І адкуль.
Так што, з цябе, Барыс,
Хоць ты сусед мой, пляшка,
А вынік, на маю карысць, ужо —
Два — нуль.

Ну, што прыціхлі, галубцы,
Як з’елі мыла?
Дзе ваш агонь?
Пакуль я бачу толькі дым…
Тут усміхнуўся у адказ
Бяззуба й міла
І крок зрабіў да Шальмяца
Дзядок Максім.

А можна мне, Антоська,
Хаця я не маю
Бутэлькі спрэчкавай,
Ды чорт яе бяры.
Ты выйграў дзве пакуль,
Да іх я далучаю
Тваe, што ты прайграеш мне,
Бутэлькі тры.

Шальмец падумаў:
«Гэты дзед, хоць і бяззубы,
А пальца ў рот яму
Усё-ткі не кладзі».
А сам услых прамовіў:
— Час не любіць згубы,
Таму, Максіме, пачынай,
Хутчэй трындзі.

І дзед «трындзець» пачаў:
— Дзялюся я сакрэтам,
Які ў сабе насіў
Да гэтага аж дня.
А адбылося гэта ўсё
Мінулым летам —
Святая праўда,
Ні прыдумка, ні хлусня.

Было спякотна, нават там,
Дзе леглі цені,
У хаце спёрта,
Ды і жонка плодзіць храп,
Таму я вырашыў,
Што ноч пасплю на сене,
Каб трошкі сілы аднавіць,
Бо ўжо аслаб.

І я дзіцячым сном
Заснуў, амаль імгненна,
На сене ноч — хвілінка,
Ноч жа ў хаце — гмах.
А раніцой адчуў — о цуд! о водар сена! —
Як жвава кратаецца
Штосьці у штанах.

Чаму ж, дурны я пень,
Раней не спаў у пуні?
Я ж моц мужчынскую вярнуў,
Я быў бы — э-эх!
Раптоўна тое, што ў штанах
Рукой крануў я,
Пралезла пругка да паловы
Праз прарэх.

Я галаву прыўзняў
І скасавурыў вочы,
Зірнуў уніз цішком —
І што ж убачыў я?
Убачыў я і абамлеў,
Бо гэтай ноччу
Ў штаны мае аднекуль
Запаўзла змяя.

Вось там яна, ў маіх штанах
Ноч і праспала,
Цяпер вачамі ў вочы зазірала мне.
Я зразумеў, Антось,
Што будзе мне не мала,
Калі мяне за штось
Змяюка ўгрызне.

І ад таго, што ма́ю нервы,
Як з жалеза,
Я не крануўся
І амаль не дыхаў я.
Яна ж, праз нейкі час,
Ў штаны назад залезла
І паміж ног маіх заснула —
Во змяя!

А што ж рабіць?
Я ж без вады тут і без ежы
У пуні гэтай
Доўга так не працягну.
Я ж, да таго,
Свае ўсе костачкі адлежаў —
Як са штаноў маіх
Прагнаць мне звярыну́?

Пакольки быў на сене я,
Як на трыбуне,
І з вышыні таму
Праз шчыліну сачу —
А раптам ранкам
Пройдзе хтосьці каля пуні,
Хоць я стары, Антось,
А жыць яшчэ хачу.

Ляжу, на Бога спадзяюся
І на ўдачу.
І літасцівы Бог пачуў,
Паслаў яе —
І вось на шчасце на маё,
Марусю бачу,
Яна ідзе сабе ля пуні
І пяе.

— Што за Маруся? —
І Шальмец увесь напругся,
Дзед засмяяўся хітра:
— Растлумачу я:
У нашай вёсцы ёсць
Адна толькі Маруся
Тады ля пуні,
З песняй жонка йшла твая.

Свой гэты шанц
Я ацаніў тады імгненна —
Вось хто прагоніць
Са штаноў маіх бяду!
І я гукнуў яе:
— Маруська, лезь на сена,
Я тут адзін!
Я без цябе тут прападу!

Зяхну́лі дзверы,
Глуха рыпнула жалеззе
Ад двух старых завесаў —
Значыцца ідзе.
Зашабуршыла ўнізе сена —
Значыць лезе.
І вось яна!
Пытае шэптам: Хто тут? Дзе?

— Я! Я, Маруська! Я!
Я — дзед, мяне намацай!
Праблема ноччу мне
Патрапіла ў штаны.
— А жонка дзе твая, дзядок?
— Старая ў хаце.
Ды ты не бойся,
Мы з табой цяпер адны.

— Ну, а чаго дзед хоча?
— Тут такая справа…
Хачу, каб неяк ты
Ў штаны залезла мне.
Яна — у голас мне:
— О, як гэта цікава!
І рамантычна гэта ўсё,
Нібыта ў сне.

Тым больш, на сене ў пуні,
Быццам на пракосе —
І ручанькай сваёю —
Шусь мне у штаны.
— Ты ж толькі, дзед, маўчы,
Не дакладзі Антосю,
Бо ён па часці рэўнасці —
Як ёсць, зусім дурны.

Шальмец падскочыў аж:
— Старое ты паленне!
Не праўда гэта! Не!
Усё гэта — мана!
Не лазіла яна,
Бяззубы чорт, на сена!
І у штаны твае
Не лазіла яна!

— Не лазіла яна-а? —
І дзед зрабіў зацяжку.
Сцвярджаеш ты, што век
Такога не было?
Ну, калі так, Антось,
Гані свае тры пляшкі,
Бо кліча ўжо абед
Нас пад сваё крыло.

— Ды не шкада зусім
Мне гэтых пляшак клятых!
Паклёп на жонку, ён —
Мне горш любога зла.
Тут хтосьці запытаў,
Крыху падбэсціў свята:
— А што там, дзед, яна
Ў тваіх штанах знайшла?

Дзед нават не звярнуў
Увагі на пытанне,
Па-гаспадарску ён
Накрыў агульны стол…
Тут кожны здольны быў
На жарты, выдумлянні,
І быў тут кожны —
Гумарыст і балабол.

*23.01—24.01.2021*

## Па законах ваеннага часу

Саракавыя гады… У вайну
Беларусь на калені не стала,
Калі маці-зямлю сінявокую
Дзёўбаў фашысцкі груган.
І старыя й малыя —
Уся Беларусь ваявала,
Хто у войска пайшоў,
Хто ў рады партызан.

Мінула вайна… Час уперад ляціць,
Як маланка,
А памяць захоўвае свята
Твой подзвіг, народ.
І сёння, праз столькі гадоў,
Кажам мы: «Беларусь-партызанка»,
І скажуць нашчадкі такое
Праз тысячу год.

Каб ушанаваць гэту памяць,
Не спяць рэжысёры ў падушку,
Здымалі і будуць здымаць
Патрыятычны ўслаўляючы дух.
І вось малады рэжысёр
Зняць рашыў кінастужку,
Галоўнаю тэмай якой
Партызанскі стаў рух.

Няпроста зрабіць гэта сёння,
Зямлю «падмялі́ мы й прыбралі»
І лес парадзеў,
Бо ад пілаў звініць у вушах.

Мы столькі праклалі дарог,
Столькі набудавалі —
Жыццё набірае разгон,
Набірае размах.

Прагрэс — ён карысны, але
Ён і шкодны,
Прагрэс — пад сабой сук сячэ,
Ён і ноч, ён і дзень.
А трэба ж знайсці рэжысёру
І лес першародны,
І вёску, хаця бы адну,
Каб вакол — глухамень.

Шукаў рэжысёр,
З ім шукаў сцэнарыст —
Не стаялі на месцы,
Аб'ехалі і абыйшлі,
Хто б сказаў — паўзямлі.
Стапталі не мала падэшваў,
Патрацілі час — і нарэшце
Знайшлі, нават больш, чым шукалі,
А лепшае значна знайшлі.

Ну што ж, не дарма
Рэжысёр з сцэнарыстам бадзяжыў,
Не вераць вачам, бо натура, што трэба
На ўсе тут бакі.
Такое ўражанне, быццам бы час
Гэты кут не заўважыў
Ці раптам, па нейчай камандзе,
Назад адступілі вякі.

Цяпер неабходна было
Праз лес гэты «немцаў» правесці
Да месца таго,
Дзе ў засадзе чакае атрад «партызан»
І толькі у тым,
Рэжысёрам прызначаным месцы,
Адбудзецца бой —
Вось такі папярэдні быў план.

Атрад партызан быць павінен быў
Мужны, наўздыме,
Каб пераканаўча на камеру
Дзейнічаў ён.
А немцы павінны былі
Ў партызан пастраляць халастымі
І, кінуўшы зброю,
З рукамі узнятымі, здацца ў палон.

Акцёры былі знакамітыя —
Зорка на зорцы,
Усё паступова да здымаў,
Да справы ішло.
Ўсё гладка было,
З рэжысёрам у творчай гаворцы,
Заўжды на паперы ўсё гладка,
Ніколі равоў не было.

Калі партызаны-акцёры,
Дзе трэба, сядзелі ў засадзе,
Чакаючы немцаў-акцёраў,
Калі ж тыя выткнуць свой нос,
Тады ужо немцаў-акцёраў,
У форме усіх, пры парадзе,

Сцяжынай нябачнаю вёў
Павадыр — дзед Фядос.

Фядос быў мясцовы жыхар,
З гэтай вёсачкі Гайны,
Стары быў дзядок,
Але ведаў лясы назубок.
Ён вёў да засады атрад,
На чале з генералам,
А ўжо перад «боем»,
Павінен сыйсці быў у бок.

Ішлі з перадыхам,
Бо дзед прыставаў, а прычынай
Быў дзедаў узрост —
Дзевяноста гадкоў адгуло.
І трэба ж супасці было,
Каб па гэтых мясцінах,
Вяртаўся дамоў з палявання
Ў суседнюю вёску Міхалка Шуло.

Суседняя вёска і вухам не чула
Пра здымкі карціны,
Жылі сабе ціха, спакойна,
Як продкі жылі іх спрадвек.
І раптам Міхалка пачуў
Недзе гоман мужчынскі,
І дужа здзівіўся —
Тут рэдкасць чужы чалавек.

Міхалка падкраўся туды,
Дзе гусценькі хмызняк стаў завесай,
Адкуль даляталі
Прыцішаныя галасы.

Зірнуў і стрымаў ледзьве крык —
Немцы крочылі лесам!
Зноў немцы! —
І ўздыбіліся валасы.

Шуло так папёр,
Ажно голле з-пад ног вылятала.
Артысты спалохана сталі: — Хто гэта?
Усіх супакоіў Фядос:
— Ды дробязь. Напэўна, мядзведзь,
Іх у нас тут нямала.
Артысты прыселі ажно,
Адчуўшы на сэрцы мароз.

Міхалка, збялелы ад жаху,
Прыпёрся у родную вёску,
Не можа аддыхацца,
Сэрца ірвецца з грудзей.
Імчаў паміж хат,
Нараджаючы лямант, галоскі:
— Ратуйцеся! Немцы!
Ўцякайце! Хапайце дзяцей!

Найперш павыскоквалі бабы
З надворкаў і хатаў —
І ў слёзы, і ў голас:
— Зноў немцы! Ратунку няма!
Міхалку спыніў —
У бялізне, як корч сухаваты,
Прайшоўшы ажно тры вайны,
Дзед Кузьма.

— Стаяць! Што за гвалт?
Што за вэрхал сабачы?
Людзей баламуціш,
Па вёсцы разнёс пустазвон.
— Там немцы! — бажыўся Шуло,—
З генералам ішлі, я іх бачыў,
І з Гайны Фядоса вялі,
Пэўна, ўзялі ў палон.

А раптам яго расстраляюць
Фашысты-бандыты.—
І хліпнуў,
І выцер ўзмакрэлыя вочы Шуло.
Кузьма зноў Міхалку спыніў
І спытаў дзелавіта:
— А тэхніка? Танкі?
А гітлерцаў шмат там было?

Усё дакладзі мне.
Магчыма былі самалёты?
І не скавычы тут, як баба,
Ядроная маць!
— Здаецца, былі там гарматы…
Ў асноўным жа — процьма пяхоты,
Вось гэта я бачыў —
Ой, трэба ж нам з вёскі цікáць!

Дзядок мацюгнуўся трохзначна:
— Адставіць бадзягу!
І лямант жаночы пачаў
Затухаць пакрысе.
Кузьма ўзняў руку,
Гучна крыкнуў: — Суседзі, увага!

Каб праз паўгадзіны
Былі тут са зброяй усе!

Хто — вілы бярыце, хто граблі,
Касу ці лапату,
Сустрэнем мы ворага,
Мы не здадзімся ў палон.
Мы ў саракавыя гады
Білі гітлерцаў клятых,
Паб'ём іх і сёння,
Каб кішкі з іх вон.

Кузьме хтосьці ціха сказаў:
«Выплюнь гітлерцаў з роту,
Бо Гітлеру, гэнаму зверу,
Даўно ўжо капут…»
Кузьма ж, быццам той камандзір,
Аглядаў сваю роту» —
Былі нават бабы «пры зброі»,
Усе былі тут.

*

«Нямецкі ж атрад» ціха крочыў
Да кропкі умоўнай
І ведалі ўсе —
Надыходзіць для бою пара.
І тут з двух бакоў,
На атрад, нечакана, раптоўна,
Наскочылі… хто яны? што яны? —
З крыкам «ура!»

Артысты падумалі:
«Вось яно, месца засады»,
Яны прытаміліся,

Лесам не мала прайшлі,
Таму і развязцы такой нечаканай
Былі вельмі рады
І, згодна сцэнарыя,
Дружна страляць пачалі.

Кузьма закрычаў:
Акружайце! Уперад! Паўзіце на пузе!
Фядос зразумеў,
Што суседняя вёска напала на іх.
Таму супыняў: — Тут свае! Не страляйце!
Тут нашы ўсе, Кузя!
Спыніцеся, добрыя людзі,
Не пазабівайце сваіх!

Тым часам гучала й была
Страляніна паўсюдна,
Старанна страляў халастымі
Нямецкі атрад.
Кузьма зычна крыкнуў Фядосу:
— Прадаўся, Іуда!
Табе ўжо гітлерцы сталі сваімі —
Во гад!

Артысты, як ім і прадпісваў
Кіношны сцэнарый,
Адкінулі зброю, здаліся ў палон,
Адным словам — кранты.
Кузьма і вяскоўцы
Не сталі чыніць тары-бары,
Скруцілі іх хутка
Й анучы запхнулі ў раты.

Кузьма трыумфаваў:
Я прайшоў тры вайны, ўсё бывала,
Бывала, ў палон заграбастваў
Фельдфебеля я.
Цяпер, на чацвёртай вайне,
Паланіў самаго генерала —
Ўсё гэта — мой вопыт
І воля, і мужнасць мая.

Дзед мужны меў выгляд,
Хоць быў у бялізне і босы
— Што, Гітлераў прыхвасцень,
Дранікаў хочаш? А во!
Дзед дулю скруціў
У артыста ля самага носу
Ён з віламі пільна стаяў
Каля генерала «свайго».

А той штосьці спробваў сказаць,
Але ў роцеануча,
Ён міміку, нейкія жэсты
Пускаў свае ў ход.
— Мычыш? Што ж, мычы! —
І Кузьма плюнуў гучна.
Мы вас, па законе ваеннага часу —
Да д’ябла, ў расход!

І дзеда Фядоса скруцілі,
Ён здраднік —такім няма спасу.
Яго асабіста Кузьма
Пасадзіў у свой склеп.
Цяпер кіравалі
Законы ваеннага часу.
І ўсіх у скляпы пад замок,
На ваду і на хлеб.

*

Усе — рэжысёр, сцэнарыст,
Сабе не знаходзілі месца,
Трывожных здагадак цяжар
На душы рос і рос.
Куды ў форме немцаў акцёры
Усе маглі дзецца?
І з імі, надзейны такі павадыр,
Дзед Фядос.

Няўжо заблудзіліся ў лесе
Пакутуюць недзе,
Не маюць з сабою нічога —
Ні есці, ні піць.
А можа патрапілі раптам
У лапы мядзведзя,
А можа… а можа…
А можа — усё можа быць.

Раптоўна ім хтосьці сказаў,
Што суседняя вёска,
Злавіла нямецкі атрад
На «сапраўднай вайне».
І з імі ў палоне знаходзіцца
Нейкі Фядоска,
Але невядома,
Жывыя яны ўжо ці не.

Таму, што ў былую вайну
Не было ад фашыстаў ніякага спасу,
Ото ж нацярпеўся тады
Беларускі народ.
Палонных маглі,
Па законе ваеннага часу,

Паставіць да нейкай сцяны
І пусціць у расход.

І вось рэжысёр адшукаў бедакоў,
Ледзь ад шчасця не плакаў,
Прыходзілі кожны ў сябе,
Хто як мог, пакрысе.
Падзяка вялікай удачы
І Богу падзяка —
Знайшліся акцёры і дзед, праваднік іх,
Жывыя усе.

Цяпер сцэнарыст з рэжысёрам
Збяруцца — напару,
Каб тое, што тут адбылося,
Ім асэнсаваць.
Само тут жыццё напісала
Цікавы сцэнарый,
Пра гэта, пра дух беларускі,
І будуць здымаць.

Фядос падыйшоў да Кузьмы:
— Падкузьміў ты сябе, даў ты маху.
Кузьма усміхнуўся на гэта:
— Які ты прасцяк!
Я дзейнічаў, братка Фядос,
Па законах ваеннага часу
І буду ў ліхую гадзіну
Рабіць толькі так.

*25.01—27.01.2021*

## Учитесь у меня

Казаться вежливым, воспитанным, не просто,
Когда не вежлив, не воспитан — чем тут крыть!
Гораздо проще и надёжнее раз вó сто
Не притворяться, не казаться им, а быть.

Когда к вам кто-то пристаёт, словно лунатик,
И достаёт вас, не теряйте головы.
Не надо грубо восклицать: — Пошёл ты нá фик!
А надо вежливо: — А не пошли бы вы…

Пусть кто-то даже затевает с вами свару,
Не стоит и́стошно кричать на целый свет:
— Да я, козёл, тебе сейчас расквашу харю!
А надо сдержанно, не выпуская пару,
Сказать: — Я в кровь сейчас раскрашу ваш портрет.

А уж когда на шею вам повиснет дама,
Пусть и страшна, как самый страшный человек,
— Уйди, уродина! — не отторгайте прямо,
А нежно молвите: — Не видеть бы вас век!

Интеллигентность и культура ныне в теме,
А невоспитанность и хамство — злоба дня.
Чтоб быть воспитанным и вежливым со всеми,
Пока я жив ещё — учитесь у меня.

## Разное

Руки опускаются,
Коль нету ни гроша.

Нету вдохновенья —
Опускается душа.

Зубы мы на полку
Кладём, коль нет еды.

Хотя и от обжорства
Не избежать беды.

Хоть обкормите волка,
Его всё тянет в лес.

А у меня и натощак
К соседке интерес.

Деньги одолжаем
На время иногда,

Назад же возвращаем
Свои — и навсегда.

Писатель награждается
За сло́ва мастерство,

А тот, кто награждает,
Не читал его.

Он в своём глазу бревно
Не видит — ну никак,

Зато из этих брёвен
Построил особняк.

Да, молчанье — золото,
Источник многих тыщ.

Я — неразговорчивый,
Но почему-то нищ.

Правду не ищите,
Она сама придёт.

А мой сосед без правды
Лучше меня живёт.

Мне, после отсидки,
Знакомый — пык да мык.

Еле разобрал я:
Прикуси язык!

## А дома лучше

Я не хочу в тропические страны
Или же в злые джунгли — нет и нет.
Я там боюсь попасть на зуб кайману
Или аборигенам на обед.

И северные не влекут широты,
Где ждёт опасность каждого своя.
Там белые медведи сводят счёты
С такими дилетантами, как я.

А мне деревню подарил Всевышний,
Опасности в ней есть, но не страшны —
Лишь муж соседки или шкалик лишний,
Да недовольства мелкие жены.

## Мару не марыць

Марыў я набыць здароўе,
Бегаць у спартзал штодня.
Ды ад мары адыйшоў я,
Сеў на белага каня.

Я свабодным жыць маніўся,
Каб не гнуцца у дугу.
Але здуру ажаніўся,
Зараз — як на ланцугу.

Вельмі марыў стаць прыгожым,
Падцягнуў свой твар хутчэй.
У люстэрка зірк — о Божа!
Жах такі, не сплю начэй.

Марыў стаць крутым, багатым,
І украў, нажыў бяду,
Але хваць мяне й за краты —
З нараў злез, дамоў іду.

Ну аб чым цяпер гутарыць —
Час ідзе, жыццё бяжыць.
Мару я цяпер не марыць,
А ў рэальнасці пажыць.

## У гісторыі след

У сячкарні часоў
Не спыняецца праца.
У жыццё я прыйшоў,
Каб не знікнуць — застацца.

Рассакрэчу сакрэт —
Каб бясследна не згінуць,
У Гісторыі след
Неабходна пакінуць.

Захавацца бы мне
У сваім хаця б часе.
Эх, вазьму й на сцяне
Напішу: «Тут быў Вася!»

## Частушкі

Не копай другому яму,
А копаешь — помечай.
Сам в неё, хоть трезвый, пьяный,
Попадешься невзначай.

Млеешь ты сейчас с соседкой
И от этого хмельной.
А сосед, пройдоха редкий,
Тешится с твоей женой.

На заборе села галка —
Зрелище бесплатное.
Муж уехал на рыбалку —
Что здесь непонятное?

Не ходите, девки, замуж,
Выйдете — не сдобровать.
Муж небрежно вашу маму
Будет тёщей обзывать.

Тёща сразу — хвать за яйца,
Только зять через порог.
От глазуньи, так и знайте,
Отказаться он не мог.

От частушек сердцу слаще,
Чем от хрену тёртого.
Запевайте их почаще —
Эх, частушка чёртова!

## Начная эпапея

Восень позняя. Першы снег
Дзе-нідзе прыбяліў далягляды.
Набірае зіма разбег,
Хаця ёй не зусім мы рады.

Я не здолеў заснуць ніяк,
Выйшаў з хаты дыхнуць на ганак,
Раптам відна зрабілася так,
Быццам гэта не ноч, а ранак.

Зірк у верх я — і ледзь не ў крык,
(Жах у сэрцы яшчэ й цяперка)
Добра, што прыкусіў язык,
Бачу, ўверсе вісіць талерка.

І ліхтарыць — вакол, як днём,
Асвятляе усё наваколле.
І зіхціць, і пячэ агнём
Так, што ў садзе аж дым ад голля.

Павісела — і, як не было,
Знікла, толькі дымок ад яблынь.
Апяклося і ночы крыло,
Ды і я, нібы спечаны яблык.

У мяне ледзь душа не вон,
Перажыў эпапею начную.
Я схапіўся за тэлефон,
І спецслужбам тэлефаную.

А яны мне ў адказ: «Ха-ха!»
Зубы скаляць замест сур’ёзу.
Кажуць, складна каб так брахаць,
Трэба конскую выпіць дозу.

Я па-польску крычу: «Пся крэў!»
Я па-руску: «У рот вам дышла!»
У мяне ўвесь вунь сад счарнеў,
Падзівіцеся, што тут вышла.

Панаехала ўсё-ткі іх —
Не ступіць, не прайсці, непрадых.

Акруціліся й хочаць назад,
Зноў хіхікаюць нада мною,
Бо, пакуль яны ехалі, сад
Закіпеў, заквітнеў, як вясною.

Яны ўзважваюць «супраць» і «за»,
Бо няма голля чорнага ў садзе.
А што сад заквітнеў — драбяза,
Перад самай зімой, ў лістападзе.

## Тэма тэм

Аж ад першага дня, да апошняга дня,
Мітусня, мітусня, мітусня.

Кожны прагна імкнецца ў мякіне-жыцці
Хоць бы зернейка сэнсу знайсці.

А пакуль хтосьці знойдзе яго, або не,
І жыццё непрыкметна міне.

Не сціхае над тэмаю тэм балбатня —
Што́ жыццё? Сэнс усё-такі ці мітусня?

Не апошняя скрыпка у спрэчцы мы ўсе,
Сэнс жыцця для адных, як сляды на расе,

Сонца раніцай блісне — і знікнуць сляды
Значыць крочаць такія сляды ў нікуды.

Дык няўжо мітусня нашых дзён і гадоў?
Значна больш ад яе мы пакінем слядоў.

Сэнс жыцця, як заўсёды, у кожнага свой —
У мякіну за зернем і я з галавой.

## Шах(мат)ная партия

— Послушай, милая подруга,
Поскольку ты не молода,
Ты всюду страстно ищешь друга —
Так вот тебе моя услуга:
Нашла его, не без труда.

Ему всего шестой десяток,
Он, правда, трижды был женат.
Но есть один в нём недостаток —
Он в жизни очень любит мат.

Он не богат, не Монте-Кристо…
Подруга взвизгнула: — Плевать!
Он любит мат! Я шахматиста
Давно хочу захомутать!

Ведь шахматисты — вундеркинды,
Смысловы, Фишеры, мозги!
Да будь он не красивый трижды —
Согласна я! Беги! Зови!

И брак свершился, как бывает,
Но, жаль, не у небесных врат.
Она в азы игры вникает,
Супруг ей шах не объявляет,
Но через слово гнёт ей мат.

## Цалуйцеся!

Я выпіў келіх — і ні ў водным воку,
Я выпіў два — і зноў каля нуля.
Я выпіў нават пяць — і ўсё без толку,
Я ўсё цвярозы, быццам немаўля.

І колькі я не піў — было ўсё мала,
Ў мазгах ні хмаркі, у вачах — святло.
І раптам ты мяне пацалавала
І ўсё перад вачамі паплыло.

Вось так і ап’янеў я неўспадзеўкі,
І кожны дзень «п’яне́нькі» я такі.
Не пераводзьце грошы на гарэлку,
Цалуйцеся з каханай, мужыкі!

## Творчы дыялог

— Ты памятаеш, пры бальшавіках,—
Паэт гаворку распачаў панура,—
Які для літаратараў быў жах,
Як лютавала жудасна цэнзура?

А сёння вольна думцы і душы,
Што стрэльнула ў мазгі, тое й пішы.

Другі паэт зарагатаў у адказ:
— Ды ты, я бачу прастата святая!
Занятыя кіраўнікі ў наш час,
Ніхто з іх сёння кніжкі не чытае.

Ці проза ім, ці вершы — хоць бы хны,
Такіх «звяроў» не ведаюць яны.

## Сезонный спор

Вздумал подчинённый на́ глаз с глазу
Припереть начальника к стене:
— Сколько я работаю, ни разу
Вы не дали отпуск летом мне.

А у вас любимчики в фаворе —
Лето им и бархатный сезон.
Я ж лечу на юг, когда там в море
Попа мёрзнет у меня — пардон.

Но начальник для того и главный,
Мыслит широко и далеко.
Спор сезонный с подчинённым давний,
Разрешил изящно и легко.

Он в своём решеньи — неизменчив,
За́дал подчинённому вопрос:
— Ты признайся, любишь потных женщин,
Ну а водку тёплую ты пьёшь?

— Тёплую? — воскликнул подчинённый,—
Потных баб? Да Боже упаси!
Выдохнул начальник умилённо:
— Летом отпуск больше не проси.

## Вегетарианец

О стол! От яств ломи́тся!
Пестрит в глазах от блюд.
Здесь рыба, мясо, птица,
Чему Бог дал родиться,
Конец нашло свой тут.

Гостеприимен, ласков
Хозяин — даже мил.
— Вот сочная колбаска,
Кабанчик жирный был.

Такой был непоседа —
То двор, то хлев, то луг.
Хозяевам был предан,
Как настоящий друг.

А вот на блюде чинно
Ждёт часа своего
Телячья буженина
И хрен — как без него?

Телёнок был, как сказка —
Сроднишься с ней, прочтя.
Привязан был и ласков,
Как малое дитя.

А вот на этом блюде,
Румянится слегка —
Берите, рад он будет,
Цыплёнка-табака.

Был петушок весёлый,
Пока был жив и цел.
Он, громче радиолы,
Рассвет встречая, пел.

А здесь на блюде рыба,
Поймал её в реке.
Эх, посмотрели вы бы
Рыбёшек на крючке.

Не видели вы сроду
Предсмертный танец их.
Как им хотелось в воду,
Назад, хотя б на миг…

Сидел я, как в тумане,
Был мыслей полный рот.
А что, если б над нами
Был неких монстров род.

Явились ниоткуда,
Чтоб править на земле.
Из нас стояли б блюда
У монстров на столе.

Хозяин взял бы слово
И предложил гостям:
— Вот плов из Иванова,
Его я делал сам.

Он, правда, был балбесом,
Но славный вышел плов.
А здесь, под майонезом,
Зажаренный Петров.

И хрен здесь из-под тёрки,
Для блюд пикантный смак.
А под хрустящей коркой
Здесь Сидоров-табак…

Представив небылицу,
Я есть уже не мог —
От рыбы, мяса, птицы
Я дался за порог.

Нет, я не самозванец,
Не шлю другим укор,
Я — вегетарианец
С тех незабвенных пор.

## Дон-Жуан

Мы встретились, свои глаза скрестив,
Как шпаги, взгляда два судьба скрестила.
Поскольку я чертовски был красив,
Она, борясь не долго, отступила.

Её пленил я красотой своей,
Очаровал — какие тут сомненья!
Я голову настолько ей вскружил,
Лишь бегство стало для нее спасеньем.

Я юных дев смущал, и в том секрет.
Что я неотразим, к чему кокетство.
Да, Дон-Жуан и в восемьдесят лет,
Пленит любую, обращая в бегство.

## Споров кутерьма

Толпа около дерева
Взмутила кутерьму:
— Кто скажет приблизительно,
А сколько лет ему?
Я подскочил к собравшимся,
Всем тактам вопреки,
И сразу показал свой ум:
— Ну вы и дураки!
Спилите это дерево —
И спорам всем конец,
На срезе вы увидите
Количество колец.
Когда же посчитаете
Вы каждое кольцо,
Тогда и возраст дерева
Предстанет налицо.

---

Но люди были вовсе не глупы́:
— Ах умный ты! —
Сказали из толпы.
Но чтоб узнать, умен ты или нет,
На это только мозг твой даст ответ.
— А он на это дал ответ давно,
Вон сколько книг я написал. Полно!
На мозг мой мне намек понятен ваш,
Но без ума такого не создашь.
— Э нет!
Мы видим, этот труд не мал,
А вдруг чужие мысли ты списал.

Теорию мы отодвинем вбок,
Для точности — твой вскроем черепок,
Как ты спилить советовал сей дуб,
На мозг твой взглянем, умный лесоруб,
И, сосчитав извилины, тогда
И вынесем вердикт — умён ты, да!
Я понял: вскрытье — это смерть и мрак
И потому вскричал: — Да будет так:
Не отрекаюсь от своей вины,
Уж лучше, я — дурак, а вы — умны.

Порою, в споре том или ином,
Встревать не надо со своим умом,
Она опасна, споров кутерьма —
Как бы не вскрылась дурь поверх ума.

## Вартаўнік

Бязгрэшным быць зусім няпроста,
Спакусы ліпнуць, як кароста,
Яны ля кожнага, як цень.
І мы, што маем тое й маем,
Напой спакуслівы прымаем,
Як лекі, ледзь не кожны дзень.

А рай, каб менш было бяды,
Закрыць, няхай не назаўжды,
На нейкі час для пераўліку.
Бо ў рай цішком пралезла шмат —
Хто д’яблу брат, хто чорту сват,
Хтось меў ва ўладзе чын вялікі.

А я не жыў на іх манер,
Паколькі я пенсіянер,
Усё зраблю, каб зменшыць шкоду.
Адкрыта я, а не цішком
Ўладкуюся вартаўніком,
Няхай не ў рай, а ля ўваходу.

О, не пералічыць дзялкоў,
У рай яны палезуць зноў,
Як пры пасадзе, да карыта.
Дзялкі знаёмыя ўсе мне,
Ніводзін з іх не прашмыгне
Па блату ці з анкетай-«ліпай».

## Ответит некролог

Живая есть, есть мертвая вода,
Но только в сказках этот водоем.
А мы при жизни, все свои года,
Какую воду ежедневно пьем?

Из крана, безо всяких оговорок,
Мы воду пьем.
Так это ж ерунда!
А из бутылки, градусов на сорок —
Лизнешь, глотнешь, кульнешь —
Вот это да!

До этого, весь день сидел, зевая,
А выпив стакане́ц — ты царь, ты Бог!
Где мертвая вода, а где живая?
Ответ в себе содержит некролог.

# З м е с т

## Вершы 2020–2021

## Стихотворения 2020–2021

## Паэмы 2020–2021



## Гумар 2020–2021

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ

**Том 14**

*Вершы*
*Паэмы*

Адказны за выпуск *Зміцер Колас*

Малюнкі *С. Ф. Давідовіча*
Фота *Л. С. Тайноўскага*

Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Тэхнічны рэдактар *Л.А. Талстухіна*

Падпісана да друку 23.02.2021. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 19,74.
Ул.-выд. арк. 11,75. Наклад 45 экз. Заказ 7.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: індывідуальны прадпрымальнік
Зміцер Колас. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў.
№ 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220114, Мінск.